ГОД IX ТРАВЕНЬ - ВЕРЕСЕНЬ № 66-67
1955 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ



АПУШЧАНАЯ КАТАЛІЦКАЯ КАПЛІЦА КАЛЯ ВАЛЕЎКІ

**BOŽYM ŠLACHAM**

**(SUR LA VOIE DIVINE)**

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année IX. № 66-67 Mai-Septembre 1955

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI<sup>e</sup>

| Перадплата «Божым Шляхам» на 1956 г. | | |
|---|---|---|
| | За адзін нумар | На год |
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

**Chèque Postale : Paris c. 6287 44**
**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI^e.**

У АНГЛІІ:

**Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

**У АРГЭНТЫНЕ:**

**Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, Buenos Aires.**

**У АЎСТРАЛІІ:**

**Mr. Jackievicz Donat, 33, Hope Str., Spotswood-Melbourne, Victoria.**

**У БЭЛЬГІІ:**

**M. l'Abbé Czerniaŭski François, Michelse 202. LOUVAIN.**

**У НЯМЕЧЧЫНЕ:**

**Dechant Michael Moskalik. Konto, N° 135259, P. Sch. A. Hannover. in Goslar,**

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 150 фр.— 4 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці. 40 фр. 1 шыл.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах (друг. выд.) 450 фр. — 13 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 2500 фр. — 2 ф. і 10 шыл.
Карта Беларусі — 40 фр. 1 шыл.

**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik — 50 фр. 2 шыл.**

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:

**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.**

У Англіі: **Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У Нямеччыне: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

# З беларускае народнае мудрасьці

Абы Бог даў сьвіню, то карыта знойдзем.
Абы Бог і добрыя людзі, то ўсё добра будзе.
Абы падла, то вароны назьлятаюцца.
Абы рукі, то служба будзе.
Абы хацець, то можна знайсьці.
Ад Бога нідзе не ўцячэш, усюды знойдзе.
Ад бяды кіем не абаронішся.
Адзін Бог праўду любіць.
Ад дрэннага семя не чакай добрага племя.
Ад ліхога, полы падабраўшы, уцякай.
Адна бяда — не бяда; дзьве бяды — паўбяды; але калі трэцюю натыбаеш, вось тады бяду спазнаеш.
Аднаму і трэска голіць, а другому і брытва ня хоча.
Адна рада добра, а дзьве лепей.
Адно ўмёрлы свабодны, адно разумны багаты.
Адны вочы і плачуць і сьмяюцца.
Ад старасьці і ад сьмерці няма лекаў на сьвеце.
Ад сьмерці ні адкупішся, ні адпросішся.
Ад чорта крыж маеш, а ад ліхога чалавека нічога.
Ад языкоў нідзе не ўцячэш.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год IX. ТРАВЕНЬ-ВЕРЕСЕНЬ 1955 г. № 66-67

# Жыватворчая крыніца

Хрысьціянства ставіць перад чалавекам, як апошнюю і найвышэйшую мэту жыцьця, асягненьне вечнага шчасьця ў небе. Гэты небасяжны ідэал вымагае ад чалавека нямала працы над сабою ў перамаганьні сваіх недахопаў і ў здабываньні цнотаў. Калі-б такую працу было магчыма выканаць на працягу некалькі тыдняў, ці хоць-бы некалькі месяцаў, дык, не зважаючы на сваю веліч, яна ня была-б цяжкаю працаю, але ўся справа ў тым, што яе неабходна выконваць штодзённа і то праз усё жыцьцё. А штодзённа змагацца з сваімі слабасьцямі, не зьнеахвочвацца ніякімі цяжкасьцямі ды ўсьцяж ісьці ўпярод, увысь да ідэалу — дык да такое працы трэба мець нямала гарту волі, і ўсе нашыя сілы умацоўваць адпаведна магутнымі сродкамі. І вось доўгавяковая хрысьціянская практыка выяўляе, што найбольш духовае сілы ў гэтай працы дае чалавеку сьвятая Эўхарыстыя, гэта значыць Хрыстом пад відамі хлеба і віна.

Агульна ведама гэройскую паставу першых хрысьціянскіх мучанікаў у абароне свае веры. А яны-ж былі такімі сьмяротнікамі, як і кожны чалавек. І калі пашукаць тае сілы, што іх узьняла да гэройства, што загартавала іхнюю волю, дала нязломную моц бараніць свае перакананьні — дык выявіцца, што крыніцаю іхняе сілы была неразрыўная лучнасьць з Хрыстом праз сьвятое Прычасьце.

Ёсьць шмат прыгожых прыкладаў аб вялікай пашане першых хрысьціян да эўхарыстычнага Хрыста. У катакомбах часта сустракаюцца фрэскі з сымбалямі сьв. Эўхарыстыі, ясна што гэты факт мае сваю вымову. Прыгожа выказвае дзеяньне сьв. Эўхарыстыі глабока ўзрушаючая гісторыя з жыцьця сьвятога юнака Тарцызія з канца III ст. Калі ў Рыме аднойчы было ўвязьнена шмат хрысьціян і прысуджана іх на сьмерць, дык на пярэдадні іхняе мукі рымскі Архірэй пасьля Службы Божае ў катакомбах зьвярнуўся да прысутных з запытаньнем: «Хто згодзіцца занесьці нашым увязьненым братом і сёстрам найсьвяцейшае Прычасьце?» Выступіў малады аколіт: «Сьвяцейшы Ойча, я занясу!» — «А ты ведаеш, што маеш несьці?» — «Ведаю, самога Бога пад відам хлеба і віна». І вось юнак — гэта быў Тарцызіюс — з нябесным скарбам сьпяшаўся да ўвязьненых. Ягонае аблічча зьзяла нейкаю нязвычайнаю яснасьцю. Прыпадкам на вуліцы стрэнулі яго равесьнікі, зьвярнулі ўвагу на нязвыклы выгляд аблічча і захацелі даведацца, што ён такое нязвычайнае нясе. Юнак прысьпешыў крок, равесьнікі кінуліся на ўздагон і дагналі. Завязалася заўзятае змаганьне ў якое ўмяшаліся яшчэ рымскія легіяністы. Кволы юнак, адзін супраць таўпы і азброеных легіяністаў абараняў мужна свой нябесны скарб. Раззлаваны натаўп змасакраваў Тарцызія, зьмяшаў ягоную кроў з крывёю Хрыста, але ня змог яе адабраць. Калі ўвязьненыя хрысьціяне даведаліся аб гэтай крывавай ахвяры юнака, зробленай дзеля ўмацаваньня іхняе веры, прычасьціліся духова і ніводзін не заламаўся ў мучэньнях за сваю веру.

Так было калісь, так ёсьць і цяпер і так будзе заўсёды — сьвятое Прычасьце дае нявымоўную сілу людзкой душы. У краінах, дзе сёньня лютуе прасьледаваньне за веру, дзе ў канцэнтрацыйных лягэрах мучацца верныя сыны Хрыстовае Царквы за свае рэлігійныя перакананьні, найбольш дзейна падтрымоўвае духовыя сілы Найсьвяцейшая Эўхарыстыя. Аб гэтым аднагодна сьведчаць успаміны тых, якія мелі шчасьце вырвацца з бязбожных рук.

У штодзенным жыцьці таксама бяз лучнасьці з Хрыстом немагчымае духовае жыцьцё, ані тымбольш якісь поступ у дасканаласьцях і цнотах. Хрыстос аб гэтым кажа: «Калі ня будзеце есьці цела Сына Чалавечага і піць крыві Яго, ня будзеце мець жыцьця ў сабе» (Ів. VI,53). Ясна што тут Хрыстос гаворыць аб духовым жыцьці. А на іншым мейсцы дадае: «Як галінка ня можа прынесьці плоду сама з сябе, калі ня будзе на вінаградзіне, так і вы, калі ня будзеце ўва Мне» (Ів. XV, 4).

Маючы на ўвеце гэтую навуку Хрыста і доўгавяковую практыку, Каталіцкая Царква стараецца ўсё больш і больш пашыраць і паглыбляць культ да Найсьвяцейшае Эўхарыстыі. Ужо ў IX веку пачынае разьвівацца асаблівая форма культу, якая ў XIII в. прывяла да ўстанаўленьня

сьвята Цела Хрыстовага. Ад тады ўжо былі арганізованы працэсіі з манстранцыямі. У тым-жа XIII в. заснавалася першае Таварыства Найсьвяцейшых Тайнаў, яно асабліва было пашырана ў XVI ст., але зьменшылася ў часе францускае рэвалюцыі. У XVII ст. паўсталі спэцыяльныя Інстытуцыі для адарацыі Найсьвяцейшых Тайнаў.

Рацыяналістычныя і рэвалюцыйныя рухі XVIII ст. на некаторы час былі ўстрымалі разьвіцьцё арганізацыяў і ўстановаў, якія пашыралі культ Найсьвяцейшае Эўхарыстыі, але затое ў XIX ст. гэты культ пачынае разьвівацца ў новых формах і з новым уздымам. Ад 1852 г. арганізуюцца заўсёдныя адарацыі, ад 1873 г. ладзяцца перш дыяцэзальныя а потым ад 1881 г. інтэрнацыянальныя Эўхарыстычныя Кангрэсы, засноўваюцца шматлікія манашыя згуртаваньні, з заўсёднаю адарацыяю, ладзяцца спэцыяльныя адарацыі, каб перапрасіць і задосыцьучыніць за блюзьнерскія абразы Бога. І гэта ўсё дзеецца тады, калі бязбожная прапаганда з нячуваным майстэрствам і подступам стараецца апанаваць душу чалавека. Сапраўды ладзівугоднаю ёсьць вымова міжнародных Эўхарыстычных Кангрэсаў. На іх удзельнічаюць найвызначнейшыя духоўныя і сьвецкія дзеячы і мільённыя грамады вернікаў. Сёлета такі Кангрэс адбыўся ў сталіцы Бразіліі Рыо-дэ-Жанэйро.

Як звычайна ў такіх выпадках газэты і часапісы шмат пісалі аб урачыстых цэрэмоніях, аб прачытаных дакладах, аб велічных працэсіях, у якіх вернікі і ерархі выяўлялі сваю глыбокую пашану да эўхарыстычнага Хрыста, пералічалі вызначных удзельнікаў — бо ўсё гэта лёгка кідаецца ў вочы кожнаму глядзельніку. Але мала хто з тых глядзельнікаў і з журналістаў зьвярнуў увагу, што падчас такіх Кангрэсаў адбываюцца глыбокія падзеі ў душах прысутных. Напрыклад сёлета ў Рыо-дэ-Жанэйро ў ліку мільёна людзей, што прынялі сьв. Прычасьце падчас Кангрэсу было шмат такіх, што ўжо больш дзесятка гадоў былі зусім няпрактыкуючымі — нежывымі душамі; было так-жа нямала амаль цудоўных навернен ьняў — некалькі дзесяткаў паганаў атрымала хрост.

Найсьвяцейшая Эўхарыстыя гэта Тайна бесканечнае Божае любові — у тым яе сіла і веліч. Калі чалавек яе прыймае годна, дык атрымўвае бязьмернае багацьцё Божых ласкаў, якое спрые духоваму росту. Тут падчыркнута слова «годна», каб зьвярнуць увагу, што ня кожнае сьв. Прычасьце мае аднолькавае дзеяньне ў душы чалавека. Ці мала ёсьць такіх людзей, што часта прычашчаюцца, а ніякага поступу ў духовым жыцьці ня робяць, бо прычашчаюцца абыяк. Здараюцца нават выпадкі нягоднага прычасьця і тады яно замест духовага поступу стаецца сьвятабойскім злочынам. Ужо апостал Павал асьцерагаў вернікаў: «Хто будзе есьці гэты Хлеб ці піць чашу Гасподнюю нягодна, будзе вінен Цела і Крыві Гасподняе... Хто есьць і п'е нягодна, той есьць і п'е прысуд сабе, не разважаючы аб Целе Гасподнім» (І. Кар. XI, 27, 29). Не дарма ва ўсходняй Службе Божай заклікаецца вернікаў да сьвятога Прычасьця словамі: «Са страхам Божым і вераю прыступіце».

Той страх, якога вымагае Царква ад вернікаў да годнага сьвятога прычасьця, ня ёсьць рабскім страхам, але страх пашаны да велічы Бога, да бесканечна любага Ісуса Хрыста, каб не зьняважыць Яго нашым нягодным жыцьцём, каб нашае сэрца было даволі чыстым для Яго ўспрыняцьця. Калі чалавек сумленна выканае ўсе тыя ўмовы, якія ўстаноўлены Каталіцкаю Царквою да годнага прычасьця, дык няма чаго баяцца, наадварот можа з радасьцю чакаць таго мамэнту, калі эўхарыстычны Хрыстос увойдзе ў наша сэрца і астанецца там незаўсёды. Калі з такім пачуцьцём прыймаецца сьвятое Прычасьце, дык яно стаецца сапраўды жыватворчаю крыніцаю для ўмацаваньня духовых сілаў чалавека і карыстаць з яе можна і трэба як найбольш і як найчасьцей — на тое яе Хрыстос і даў нам, людзям.

**а. Леў**

---

# Чытаючы кнігу прыроды

**«ДАЙЦЕ ДОКАЗЫ!»**

З усіх пытаньняў, якія могуць турбаваць чалавека, бязумоўна найважнейшым ёсьць пытаньне існаваньня Бога, бо ад вырашэньня гэтага пытаньня залежаць і паводзіны чалавека ў дачасным жыцьці і ўсё вечнае жыцьцё. Да таго, як кажа адвечны досьлед, гэта адно з тых пытаньняў, якога чалавек ня можа абыйсьці, каб з ім раней ці пазьней ня стрэнуцца. Вобразна кажучы, кожны на сваім жыцьцёвым шляху ня можа амбінуць таго раздарожжа, дзе адна дарога накіроўваецца да Бога, а другая аддаляе ад Бога. Жыцьцё імкнецца няўпынна, дык і на тым раздарожжы нельга чалавеку затрымацца і неабходна зрабіць нейкі крок на адзін з двох шляхоў, бо трэцяга няма. Дробныя сьцежкі, якімі некаторыя часам пробуюць абыйсьці тое раздарожжа, раней ці пазьней вядуць на адзін з тых двох шляхоў.

Лішнім было-б гаварыць аб важнасьці і адказнасьці такога кроку, ад якога залежыць выбар жыцьцёвага шляху. Зрабіць памылку пры такім выбары ёсьць найбольшым няшчасьцем, якое

агулам магчымае. Каб усьцерагчы чалавека перад такім няшчасьцем Валадар сусьвету ўсюды густа расьсеяў розныя знакі быццам паказчыкі дарогі, якія прамаўляюць да чалавека сваяроднаю моваю. Для разуменьня і ўспрыняцьця тае мовы патрэбна перш-на-перш шчырае жаданьне пазнаць праўду. Неабходна так-жа зрабіць якоесь стараньне, каб як пазнаць.

Недаверкі, калі становяцца перад пытаньнем існаваньня Бога, часта ў апрўденьне свайго недаверства кажуць: «Дайце доказы! Дайце нам доказы!» Але звычайна за гэткімі вымаганьнямі хаваецца прытоеная надзея, што ім ніхто доказаў ня дасьць. Калі-ж насупраць такога спадзяваньня чуюць пераконваючыя доказы, затыкаюць вушы. Бяз добрае волі з боку чалавека немагчыма яго пераканаць нават у зусім ясных праўдах. Але доказы, тыя паказчыкі шляху да Бога, зьзяюць, быццам сонца, незалежна ад таго, ці на іх хто зьвяртае ўвагу, ці не і выяўляюцца ў што раз большай колькасьці, так што іх сёньня цяжка недабачваць і недацэньваць.

Інакш адносяцца да доказаў вернікі. Яны калі даведваюцца якісьці новы факт адносна існаваньня Бога, адносна Яго бесканечнае велічы і мудрасьці, заўсёды пераживаюць духовы ўздым, адчуваюць новы прыліў радасьці.

Дзеля гэтага і для адных і для другіх будзе вельмі карысна даведацца аб тых асягненьнях навукі, асабліва ў галіне прыродазнаўства, якія ад некалі дзесяткаў гадоў прыносяць шмат цікавых фактаў адносна Стварыцеля. Аб некаторых з гэтых фактаў ужо ўспаміналася пры розных нагодах на старонках «Божым шляхам», але таму што яны падаваліся паасобна і расьцярушана, тут пастараемся падаць іх разам з іншымі падобнымі фактамі больш сыстэматычна.

## КНІГА ПРЫРОДЫ

Ад даўна вывучэньне прыроды вобразна называецца адчытваньнем кнігі прыроды. Аб ёй у мінулым стагодзьдзі шкоцкі гісторык Тамаш Карлляйль (1798-1881) пісаў: «Мы гаворым аб кнізе прыроды і яна ёсьць сапраўды кнігаю. Але ці ты, або хтосьці іншы з людзей можа яе чытаць, ці прынамся ведае яе альфабэт? Яе словы, яе сказы, яе велічныя апісаньні, паэтычныя і філязафічныя старонкі зьмешчаныя ў нашай сонечнай сыстэме, напісаны нябеснымі гіероґліфамі. Гэта сапраўды сьвятое пісаньне, якое можа ашчасьлівіць і прарокаў, калі-б яны маглі з яго сямтам прачытаць хоць некалькі радкоў».

Ад часу напісаньня гэтых слоў ужо адчытана шмат «радкоў» з кнігі прыроды і яны надзіва згодныя з тым, што пісаў у сівой мінуўшчыне псальмапевец: «Нябёсы апавядаюць славу Божую і прасторы выяўляюць творчасьць рук Яго» (Пс. XVIII, 2).

Адчытваньне «кнігі прыроды» яшчэ далёка ня скончана, але з тога, што ўжо выяўлена ў прыродзе, вычуваецца агульны тон, у якім гэтая «кніга» напісана. Падсумоўваючы навейшыя асягненьні навукі, Сьвяцейшы Айцец Пій XII у сваёй прамове да акадэмікаў 20. XI 1951 г. сьцьвердзіў, што «Сучасная навука насупраць спадзяваньняў, вельмі распаўсюджаных у мінулым, чым больш ідзе ўпярод, тымбольш адкрывае Бога, быццам Ён чакае на варце за кожнымі дзьвярыма, якія адчыняе навука».

Праўда, навейшыя навуковыя адкрыцьці не зьяўляюцца нейкімі новыві доказамі існаваньня Бога, бо пераконваючыя доказы што да гэтага сфармуляваныя багасловамі ўжо ад даўных давён, але навейшыя навуковыя адкрыцьці даюць новы даказовы матэрыял, які пашырае і паглыбляе некаторыя доказы, адначасна яны глыбока асэнсоўліваюць некаторыя ад даўна ведамыя зьявы. У гэтым іх вялікая вартасьць.

## ЗЬМЕНЛІВАСЬЦЬ СЬВЕТУ

У сучаснай багасловіі ёсьць каля дзесятка доказаў існаваньня Бога, пры тым варта зацеміць, што ёсьць багасловы, якія схільны іх уважаць толькі за аргумэнты аднаго доказу. Пералічаць іх усе ня ёсьць тэмаю гэтага артыкулу, тут зьвернем толькі ўвагу на тыя доказы, што да якіх навейшыя навуковыя адкрыцьці прынесьлі некаторыя паглыбленьні.

Ад часоў сьв. Тамаша з Аквіну (1255-1274) між доказамі існаваньня Бога вялікаю павагаю карыстаецца філязафічны доказ абаснаваны на неабходнасьці ўсіх існуючых рэчаў. Ён кажа: У дачасным сьвеце ўсе існуючыя рэчы зьмяняюцца і нішчацца, бо іх існаваньне ня злучана з іхняю істотаю. Гэта значыць, што яны хоць цяпер існуюць, але маглі-б так-жа і не існаваць. І сапраўды, калісь быў час, што яны не існавалі. Ясна, што гэткія рэчы не маглі самі сабе даць існаваньня. А гэткім ёсьць даслоўна ўсё дачаснае на сьвеце. Дык калі-б ня было яоесь істоты, якая існуе неабходна, у якое існаваньне неабходна злучана з існаваньнем, тады-б ніколі нічога у сьвеце не пачало існаваць. Таму аднак што сьвет існуе, існуюць нязьлічаныя дачасныя рэчы і істоты, дык бязумоўна існуе Істота вечная і нязьнішчальная, — **гэтаю Істотаю ёсьць Бог.**

Зьменлівасьць рэчаў і агулам дачаснага сьвету ведамая людзям ад вякоў, а сёньня абсяг зьменлівасьці рэчаў і самое матэрыі, з якое яны складаюцца, парышаны да найдалейшых граніцаў і ў макрокосмасе і у мікракосмасе гэта значыць і да найдалейшых і найбольшых зораў і сузораў і да найдрабнейшых склад-

нікаў матэрыі. У прасторах зоркавага неба выяўлена далёкія туманнасьці ў розных стадыях фармаваньня, а ў паасобных сьвяцячых зорах выяўлена працэс распаданьня і перафармаваньня матэрыі. Паасобныя зоры разгрупована ў розныя катэгорыі старасьці адпаведна да колеру іхняга сьвятла. Знойдзена так-жа і патухшыя зоры — гэта ўжо «нябесныя пакойнікі».

Ад векоў людзі ўважалі, што ў найглыбейшых нетрах матэрыі ёсьць нязьменныя і непадзельныя часткі, таму і назвалі іх атамамі (ад грэцкага слова — ἄτομος, = неразразальны, непадзельны). Але вось у 1897 годзе выяўляена, што атам складаецца з яшчэ драбнейшых частак. Перш выяўлена электроны, а потым пачалі выяўляць протоны, нэўтроны і т. д. Уканцы знойдена спосаб разьбіць зусім атам, здабываючы пры гэтым страшэнную энэргію. Якраз калі пішуцца гэтыя радкі, газэты прынесьлі сэнзацыйную вестку, што ў ЗША экіпа вучоных пад кіраўніцтвам Ляўранса адкрылі новы складнік атаму нэгатыўны протон, або інакш антіпротон, які злучаючыся з протонам, утварае на кароткі час мэзатрон і ператвараецца ў энэргію. Аб ягоным існаваньні былі дагадкі ўжо ад 1928 г. Гэткім чынам разьбіта ў пух калішняе паняцьце аб матэрыі, на якім пабудаваны матэрыялістычны сьветапогляд.

Вось-жа зьмены ў матэрыяльным сьвеце ёсьць сапраўды неімаверна вялікія і глыбокія, але пры гэтым выяўлена, што ў сьвеце па-над гэтай зьменнай рэчавінаю ёсьць яшчэ штосьці сталае — якаясьці сіла, што ўсемагутна кіруе ўсімі працэсамі, якія адбываюцца і ў найдрабнейшых частках матэрыі і ў найбольшых яе скупленьнях. Гэтая кіруючая сіла ёсьць адна ўва ўсім сьвеце. Спэктральны аналіз выявіў, што і блізкія і далёкія зоры, і найдалейшыя туманнасьці маюць такі-ж хэмічны склад матэрыі, як і наша Зямля, з тою толькі розьніцаю, што паасобныя зоры маюць некаторых элемэнтаў больш, а некаторых менш. Усюды матэрыя падлягае тым самым правам і збудаваная паводля таго самага пляну. Сам назоў «матэрыя» ад часу разьбіцьця атама стаўся толькі ўмоўным значэньнем, бо некаторыя найдрабнейшыя часткі атаму падчас яго распаду, замяняюцца ў энэргію.

Разьвіцьцё матэрыяльнага сьвету наагул дае нязьлічаныя доказы аб тым, што ён старэецца і бязупынна йдзе да нейкага канца. Тым самым выяўляецца, што матэрыяльны сусьвет ня вечны, і калі можа мець канец дык мусіў мець нейкі пачатак. І вучовыя вольнага сьвету сёньня ня толькі прызнаюць, што суствет мае свой пачатак, але нават стараюцца навуковым спосабам азначыць той час, іншымі словамі, азначыць час сатварэньня. Аблічаючы колькасьць газу гэлія, які вытвараецца падчас распаду радыёактыўных элемэнтаў ізатропу ўрану 238 і ізатропу торыя 232, азначаюць прыблізны век зямное кары на якіх пяць мільярдаў гадоў. Аблічаючы век падаючых на зямлю мэтэорытаў гэткім-жа спосабам, атрымоўваюць той-жа вынік. Для аблічэньня веку ўсяго сусьвету выкарыстоўваюць нядаўна выяўленае прыпушчэньне, што некаторыя сьпіральныя туманнасьці быццам уцякаюць ад сябе, разьбягаючыся ў прасторы з вялізарнаю хуткасьцю. Аблічыўшы хуткасьць разьбяганьня і сучасную іх адлегласьць прыходзяць да выснаўку, што ня больш як дзесяць мільярдаў гадоў таму матэрыя туманнасьцяў, а ў тым ліку і тае галяктыкі, у якой знайходзіцца наша сонечная сыстэма, знайходзілася параўнаўча на невялікім прасторы, адкуль паімкнулася ў касьмічную вандроўку і ў расьцярушаньне. Але хто даў штуршок той вандроўцы, якая сіла? Сёньня вучоныя не баяцца адказаць на гэтае пытаньне адным словам: Бог. Трэба аднак заўважыць, што вышэйуспомненыя, а так-жа і іншыя спосабы вырахаваньня часу паўстаньня сусьвету не зьяўляюцца абсалютна пэўнымі, бо-ж абаснаваныя толькі на гіпотэзах, але тым ня менш яны сьведчаць вельмі вымоўна, як сёньня самая ідэя сатварэньня сьвету годзіцца з навуковымі асягненьнямі.

## МЭТАЗГОДНАСЬЦЬ

Іншы доказ на існаваньне Бога абаснаваны на парадку і мэтанакіраванасьці ў сьвеце. Ад векоў заўважана, што ў сьвеце ўсюды валадарыць парадак і мэтанакіраванасьць, а сучсныя дакладнейшыя досьледы і глыбейшыя назіраньні прыносяць усё больш і боль падзівугодных фактаў парадку ў сьвеце. Але нельга сабе ўявіць парадку без упарадкоўваючага розуму. Да таго парадак ў паасобных рэчах і ў іхных суадносінах мае розныя ступені больш або менш дасканалыя, а гэтага нельга зразумець без існаваньня ў сьвеце найбольшае дасканаласьці, бесканечна дасканалага Розуму — якім ёсьць Бог.

За апошнія два стагодзьдзі ў сьвеце выяўлена сапраўдныя цуды мэтазгоднасьці і парадку нават там, дзе іх перш зусім не заўважвалі і ў тых рэчах, якія нас заўсёды акружаюць.

Будова матэрыі і будова ўсяго сусьвету з нязьлічанымі сонечнымі сыстэмамі, галяктыкамі, туманнасьцямі маюць на сабе выразнае таўро ўсемагутчае і бесканечна разумнае, вечнае і ўсюдыпрысутнае Істоты. Ніводзін гадзіньнік, зроблены чалавекам, ня йдзе так дакладна, як дакладна рухаюцца па сваіх арбітах нябесныя целы. Асабліва падзівугодная мэтазгоднасьць зьвязана з захаваньнем жыцьця на зямлі: да тых умоваў, якія ўтвораны на самой зямлі яшчэ дадаткова сонца высылае сьвятло і цяпло; пласт озону ў стратасфэры недапускае шкодных



**Куча зваленае абыяк цэглы. Ніякага пляну тут няма — няма сьлядоў будаўнічага.**



**Тая-ж цэгла, але ўпарадкаваная ўмелаю рукою муляра паводля пляну будаўнічага. Ані муляра, ані будаўнічага тут ня відаць, але іхняя праца сьведчыць аб іх існаваньні.**

для жыцьця касьмічных праменьняў; кружаньне Зямлі навакол сябе і навакол Сонца стварае адпаведныя ўмовы для рытму жыцьця — дзейнасьці і адпачынку жывых істотаў і найбольш спрыяльныя ўмовы росту для расьлінаў. Словам усё з сабою павязана адным магутным вузлам, які ахоплівае ўвесь сусьвет і яго хтосьці мусіў калісьці завязаць. Паляўнічы па сьлядох на сьнезе распазнае жывёлу, якая іх пакінула; археалёгі па рэштках касьцякоў распазнаюць тыя істоты, якія даўно вымерлі; кожны з нас стаўшы перад кучаю грузу і перад мурам бяз лішніх паясьненьняў ведае, што груз хтосьці зваліў бяз ніякага пляну, а для пабудовы муру мусіў быць будаўнічы, які рабіў плян і мусілі працаваць муляры; хоць мы іх ня бачым, але ня сумняёмся, што яны былі. — З гэткаю-ж пэўнасьцю будова сусьвету сьведчыць аб існаваньні Сатварыцеля.

Асабліва выразныя сьляды Бога можна назіраць у арганічным сьвеце. Не дарма сёньня вучоныя адсьвяжылі ў памяці стары выслаў філёзафа Ляйбніца (1646-1716), паводля якога: «кожнае арганічнае цела ёсьць боскаю машынаю, прыродным аўтаматам, які бесканечна перавышае ўсе штучныя аўтаматы». Гэты выслаў стане ясьнейшым, калі ўсьведамімо, што кожная расьліна і жывёліна ёсьць або аднакаморкавая, або шматкаморкавая. І тыя што складаюцца з мільярдаў каморачак ёсьць быццам падзеленыя на працоўныя згуртаваньні каморачак, якія прыстасаваныя да выконванае імі працы і самое прыстасаваньне даведзена да найдалейшых магчымасьцяў. І што асабліва важна ў гэтым прыстасаваньні і дзейнасьці дык гэта факт, што яны выконваюць сваю працу, ня маючы ніякае сьведамасьці аб тым, што робяць — **імі кіруе якісьці нябачны правадар.**

**У расьлінным сьвеце** асаблівую ўвагу зьвяртаюць на сябе ўладжаньні некаторых кветак для апыленьня. Часта спатыканая ў нашых агародах настулька, мае кветкі ў форме конуса, закончанага хабатком, напоўненага нэктарам. Уваход у хабаток прыкрыты далікатнаю поўсьцю. Кузуркі лёгка могуць пралезьці ў хабаток, бо поўсьць крыху нахіленая ўсярэдзіну і прыгінаецца пад цяжарам іхняга цела. Але калі напіўшыся духмянага нэктару, кузурка накіроўваецца да выхаду, поўсьць кветкі яе ня пускае. Кузурка, знайшоўшыся ў лавушцы, пачынае бегаць, шукаючы выхаду, пры гэтым яна трапляе на слычыкі і рассыпае іхны пылок, сама набіраецца яго і пераносіць на таўкачык — кветка апыльваецца, поўсьць вяне, кузурка знайходзіць выхад і накіроўваецца да другое кветкі, каб там выканаць тую-ж работу. Падобную лавушку маюць кветкі кірказону. Кветкі некаторых охрыдыяў-зязюлькаў маюць іншыя неспадзеванкі для жамяры. Напрыклад у зязюлькі мужчынскае нэктар схаваны на дне шпоравіднага адростку кветкі. Чмялі і пчолы, найчасьцейшыя госьці кветкі, мусяць цісьнуць сваю галоўку ў алтуліну, якая вядзе да нэктару, і лёгка туды далазяць, але вяртаючыся назад, галавою зачапаюць слычыкі так, што ім прыклейваюцца да лобу дзьве грудкі пылку так званыя полініі быццам два рожкі. З імі пчала ляціць да другое кветкі. Але полініі вельмі чулыя на сухасьць і на галаве пчалы хутка вянуць, схіляючыся напярод. Калі у наступнай кветцы пчала зноў галоўкаю праціскаецца да нэктару зязюлькі, дык прыклейвае полініі да ліпкае наверхні таўкачыка зязюлькі, даконваючы тым самым апыленьне. У экватарыяльных охрыдыяў спатыкаюцца кветкі з асобным уваходам і выхадам, па якім кузуркі мусяць ісьці, каб напіцца нэктару. Шмат майстэрства ў будове слычыкаў і таўкачыкаў маюць амаль усе губакветныя — у іх з стопрацэнтоваю пэўнасьцю пылок адное кветкі трапляе на таўкачык іншае.

Падобных прыкладаў у расьлінным сьвеце ёсьць нязьлічаная колькасьць. Ніякія хэмічнафізычныя працэсы ня могуць выясьніць тэткіх «прыстасаваньняў». Ды і самое слова прыстасаваньне тут не на мейсцы, бо-ж расьліны ня маюць

абсалютна ніякага розуму і ніякае сьведамасьці, яны ня **могуць рабіць ніякіх вынахадаў. А** таму, што міма гэтага маюць падзіву годныя уладжаньні для захаваньня свайго віду, значыць яны ўсё гэта атрымалі ад найвышэйшага творчага Розуму — Бога, Які валадарыць усім сусьветам.

**У жывёлінным сьвеце** на асаблівую ўвагу заслугоўвае тое зьявішча, якое агульна называецца інстынктам. Дзякуючы інстынкту жывёлы паводзяцца так, быццам яны маюць розум і то не абы які, але такі, што няраз перавышае людзкую мудрасьць і вынаходлівасьць. Шматлікія адкрыцьці, якія людзі зрабілі паволі на працягу вякоў і якімі слушна ганарацца, жывёлы «парабілі» ад пачатку свайго існаваньня. Вось некалькі прыкладаў:

Грэкі ўважаюць, што земляробства вынайшаў элеўзыйскі мітычны кароль Трыптолем, але вось мурашкі ведалі сеяць, палоць і перахоўваць насеньне некаторых карысных для іх расьлінкаў ў адпаведных сьвірнах ад таго часу, як яны ёсьць мурашкамі. Тыя-ж мурашкі цэлыя тысячагодзьдзі да зьяўленьня чалавека ўжо ведалі своеасаблівую жывёлагадоўлю: яны даглядаюць мшыцаў, на поўсьці якіх зьлізваюць салодкае «малачко». У некаторых краінах Амэрыкі ёсьць мурашкі, якія ўмеюць зьбіраць зерняткі, пяражоўваць іх і выпякаць на сонцы «хлеб». — І тут выперадзілі людзей на тысячагодзьдзі.

Падводны звон людзі вынайшлі параўнаўча нядаўна, а павук-вадалаз яго ўмеў будаваць і напаўняць паветрам ад нязьлічаных вякоў.

Людзі навучыліся лятаць зусім нядаўна: Монгольф'е і Пілятр першы раз узьняліся ўвысь у паветраным балёне толькі ў 1783 г., а першы самалёт збудаваў Клемэн Адэр у 1897 г. А шырокараспаўсюджаны ў нас від павука ад вякоў умее лётаць у паветры на сваёй далікатнай павуціне, званай у нас бабяе лета.

Лекары першы раз ужылі хлёраформу для ўсыпленьня падчас апэрацыі толькі ў 1847 г., а сьветлячок, ці інакш сьвятаянскі чарвяк ад вякоў умее хлёраформаваць смаўжоў, каб магчы іх спакойна есьці.

Радар вынайдзена толькі ў часе апошняе вайны а кажаны ад няпамятных вякоў маюць нешта падобнае для успрыйманьня ултракароткіх гукавых тонаў, якія самі выдаюць. Даведаліся аб гэтым зусім нядаўна. Дзіўная прыпадковасьць, што напрыклад у вушана вушныя ракавіны вельмі падобныя да радаравых антэнаў. Хто ад каго навучыўся іх рабіць? Акрамя кажаноў так-жа шматлікія начныя мятлікі ўмеюць лавіць ультракароткія гукі, якія выдаюць кажаны і пачуўшы іх, мятлікі падаюць кулём на зямлю, каб ня трапіць у зубы сваім ворагам. Пры гэтым выяўлена, што густая і бліскучая луска мятлікаў можа добра абсарбаваць ультрагукі і таму зьяўляецца не абы якім абаронным пакрыцьцём — так-жа «вынахад».

Зразумела, што ўсе гэтыя і падобныя «вынахады» жывёлы заўдзячваюць не свайму розуму, якога ня маюць, але таму найвышэйшаму і ўсемагутнаму Розуму, Які устанавіў законы для ўсяго сусьвету.

## СЬВЕДЧАНЬНЕ ВОСАЎ

Інстынкт коратка можна азначыць як уроджаную форму паводзін і рэакцыяў жывёлы, характэрную для данага віду. Незалежна ад таго, ці інстынкты будуць больш або менш скамплікованыя, яны маюць той сам пачатак, які бясканечна перавышае ўсякія матэрыяльныя прычыны, таму кожны інстынкт мае тую самую вымову, але на людзкую ўяву больш уражаюча дзейнічаюць інстынкты больш складаныя, яны мацней прамаўляюць да пераканаьня. Прыглянемся да некаторых з іх.

Сям'я восаў даволі вялікая і рознавідная. Асабліва цікавыя інстынкты маюць тыя восы, што жывуць паадзіночна. Напрыклад пясчаная асва сваім лярвам падрыхтоўвае для харчаваньня вусьняў хваёвага сфінкса. Але яны ўвесь час павінны быць жывымі, аднак не павінны рухацца, бо лярва пясчанае асвы вельмі кволая. Дзеля гэтага асва параліжуе вусьняў. Яна з сапраўдным майстэрствам нападае на сваю ахвяру і пачынае джаліць у чэрава ў кожны сэгмэнт (кольца). Трэба ведаць што там знайходзяцца нэрвовыя вузлы вусьня. І вось асва джаліць вусьня з такою дакладнасьцю быццам яна выдатна ведае яго анатомію і параліжуючае дзеяньне атруты свайго джала — у вусьня ёсьць 9 нэрвовых цэнтраў,



**Пясчаная асва цягне спараліжаванага вусьня ў норачку.**

1. 

2. 

3. 

**1. Лянгвэдоцкая асва-сфэкс джаліць стрыганчыка ў грудны нэрвовы цэнтр.**

**2. Асва даконвае параліж ахвяры; яна ўхапіла стрыганчыка за галаву і моцна сьціскае яе.**

**3. Стрыганчык зусім спаралiжаваны і асва цягне яго за вусікі ў сваю норку.**

па адным у кожным сэгмэнце, і ў кожны з іх паасобку яна джаліць беспамыльна з падзівугоднаю дакладнасьцю Пасьля гэтага спаралiжаванага вусьня цягне ў норку, кладзе на яго сваё яечка, прыцягвае яшчэ чатыры або пяць падобна спаралiжаваных, закрывае ўход ў норку і ніколі больш да яе не вяртаецца ды пачынае работу каля другое норкі. Праз колькі дзён пасьля гэтага сама гіне.

Лянгвэдоцкая асва-сфэкс турботы аб сваім патомстве праяўляе падобна як і пясчаная асва, але за ежу яе лярвам служаць стрыганчыкі і цьвіркуны і толькі самічкі, як больш спажыўныя. Іх так-жа асва мусіць спаралiжаваць, але не ўмярцьвіць і яна гэта робіць з неймаверным спрытам. Яна перш джалам прабівае іхны сьпінны хітынавы панцыр, дасягае нэрвовы рухавы цэнтр і паралiжуе яго. Другі нэрвовы цэнтр стрыганчык мае ў галаве, але яго нельга спаралiжаваць атрутаю джала, бо гэта выклікала-б сьмерць і гэта быццам ведае асва; яна замест джаліць галаўны цэнтр хапае галаву стрыганчыка ў свое моцныя пашчэнкі і здушвае яе да тае ступені, каб спрычыніць аглушэньне. Так аглушаната і спаралiжаванага стрыганчыка яна цягне ў норку, якую загадзя сама выграбае і характэрна, што цягне яго толькі за вусікі. Калі вусікі адрэзаць, дык асва спробаваўшы дарэмна цягнуць сваю ахвяру за галаву, кідае яе і пачынае шукаць новую ахвяру. Прынёсшы чатыры стрыганчыкі, на грудзях у аднаго з іх кладзе сваё яечка і засыпае норку. Здараецца, што падчас таго мамэнту, як асва прынёсшы стрыганчыка да норкі, убягае ў норку, каб яе аглянуць і пачысьціць, птушкі склёўваюць падрыхтаваную ахвяру. Асва, выбегшы з норкі, шукае некалькі хвілін, а потым ляціць па новую ахвяру, але ўканцы засыпае норку з трымя, або нават толькі двумя стрыганчыкамі. Зразумела, што тады яе лярва ня выжыве, але яна кіруецца толькі інстынктам і калі спаралiжавала чатырох стрыганчыкаў, кладзе сваё яечка незалежна ад таго, ці іх прыцягнула ў норку, ці не.

Брэнзавая асва для сваіх лярваў паралiжуе лярву тынкоўкі. Дзеля гэтага яна мае моцны яйцэклад, якім можа прасьвідроўваць нават тынк. І прасьвідроўвае з такою дакладнасьцю, што ня бачучы свае ахвяры, прабівае яе рухавыя цэнтры, паралiжуе іх і кладзе ў цела ахвяры сваё яечка. Ніякія матэрыялістычная тэорыі ня могуць высьніць такіх здольнасьцяў восаў.

## СЬВЕДЧАНЬНЕ ПЧОЛАЎ

З усіх шасьціножкаў да гэтага часу найбольш дакладна вывучана жыцьцё пчолаў і выяўлена надзвычайна цікавыя факты. Гэтыя дробныя жывёлінкі сваімі паводзінамі, сваею дакладнасьцю ў працы, у арганізацыі сямейнага жыцьця ад вякоў зьвярталі ўвагу дапытлівага людзкога розуму. Свайго часу славуты францускі матэматык Рэамюр (1683-1755) быў займеў думку з матэматычнаю дакладнасьцю вырахаваць на колькі рацыянальна пчолы будуюць сваю вашчыну. Дзеля гэтага ён пастанавіў вылічыць, ці куты ромбаў, якія знаходзяцца на дне вочкаў вашчыны, даюць найбольшую ёмістасьць вашчыне пры найменшай плошчы, ці не. Ён вымераў, што пчолы рабілі ромбы донца вашчыны з кутамі 109° 28' і 70° 32'. Пасьля доўгіх аблічэньняў вучоны дайшоў да выснаўку што вочкі вашчынаў былі-б найбольш ёмістыя, калі-б пчолы рабілі ромбы з кутамі 109° 26' і 70° 34'. Выглядала, што пчолы памыліліся на 2 сэкунды. Калі аднак потым удакладнена лёгарытмічныя табліцы і спраўджана аблічэньні Рэамура, выявілася, што памыліліся ня пчолы, але вучоны. Сапраўды падзівугодная матэматычная дакладнасьць жывёлаў, якія звычайна жывуць усяго каля пяці месяцаў, ня ходзяць да ніякае школы, ня вучацца ніякае матэматыкі!

Нядаўна, бо ўсяго ў 1945 г. выяўлена яшчэ іншыя матэматычныя здольнасьці пчолаў у іхняй «мове». Моваю тут названа тыя знакі, якімі пчолы даюць сабе ўзаемна знаць аб знойдзенай багатай узятцы. Калі нейкая пчала выкрые багатую ўзятку блізка вульля, не далей як 100 мэтраў, дык прыляцеўшы ў вулей, пачынае бегаць па сотах, быццам танцаваць апісваючы кругі, такім чынам, што абегшы цэлы круг, завяртаецца




**Схэма танцу пчалы, якім яна паведамляе аб знойдзеным багатым узятку і ягоным мейсцазнаходжаньні. Вывсьненьне ў тэксьце.**

на мейсцы і бяжыць па тым-жа кругу ў праціўным кірунку, выставіўшы пры тым язычок, каб яе сяброўкі маглі панюхаць пах новае ўзяткі. Калі-ж ўзятка знайходзіцца далей як на 100 мэтраў ад вульля, дык пчала вярнуўшыся ў вулей танцуе па сотах апісваючы два паўкругі такім чынам, што паказвае дакладна адлегласьць і кірунак месцазнаходжаньня новае ўзяткі. Для азначэньня кірунку служыць напрамак бегу па дыямэтру паміж паўкругамі: зьнізу ўверх — на поўдні, зьверху ўніз — на поўначы. Адхіленьні на захад ці на ўсход азначаюцца кутом дыямэтру да стоцьнае лініі. А для азначэньня адлегласьці служыць хуткасьць танцу. Калі адлегласьць узяткі роўная 100 м. дык пчала робіць 8 да 10 прабегаў па простай лініі паміж паўкругаў на працягу 15 мінут; калі 500 м. — дык 6 разоў; калі 1000 м. — 4 да 5 разоў; 5000 м. — усяго два разы, і заўсёды ў часе 15 мінут. Кірунак узяткі пчолы азначаюць паводля сонца, незалежна ад таго ці яно відаць, ці заслонена хмарамі.

Ня кажучы ўжо аб іншых інстынктах пчалы, назіраючы гэтую дробную жывёлінку, прыходзіцца падзіўляць сапраўды бесканечную мудрасьць Сатварыцеля, Які абдзяляе такімі здольнасьцямі свае і вялікія і маленькія сатварэньні.

## ІНШЫЯ СЬВЕДЧАНЬНІ

Зьвернем яшчэ ўвагу на некаторыя зьявы, што сваею нязвычайнасьцю прыцягваюць жывейшую ўвагу чалавека.

Павуціньне здаецца аж занадта добра ведамае кожнаму чалавеку, каб аб ім яшчэ было варта гаварыць. У сапраўднасьці яно нават і для вучоных мае нямала загадкаў. Калі дакладней дасьледавалі павуціну, дык выявілі, што яна далёка перавышае нашае ўяўленьне аб ёй. Яна належыць да найбольш вытрымліваючых рэчавінаў, якія дагэтуль ведамыя. Людзкі геній выпрадукаваў сталь, як найбольш вытрымалы матэрыял; стальная нітка таўшчынёю адзін квадратны мілімэтар можа вытрымаць цяжар 400 кг., а гэткая-ж тоўстая павуціна вытрымоўвае 900 кг., як гэта выявілі нядаўна дасьледы ў Кэмбрыджскім унівэрсытэце. Ясна што павук вытварае павуціну ў залозках, якіх сам ня выдумаў. Цяпер вучоныя стараюцца выявіць сакрэт павуціны і выпрадукаваць штосьці падобнае, а павук бяз ніякіх турботаў прадукуе яе ад пачатку свайго існаваньня.

Бабровыя хаткі і бабровыя гаці на плыткіх рэках ад вякоў выклікалі падзіў у людзей, бо гэтае майстэрства бабры ведалі шмат вякоў перад зьяўленьнем чалавека. З часам людзі выперадзілі бабра ў будаўнічым майстэрстве, але трэба памятаць, што адзінаю «прыладаю» для бабра падчас будаўніцтва зьяўляюцца ягоныя зубы.

Вельмі часта і пры розных нагодах калі толькі закранаецца справа інстынктаў, паказваецца на асаблівы інстынкт вугроў, якія жывуць у эўрапэйскіх і амэрыканскіх рэках і азёрах, а нараставаць плывуць у Атлянтычны акіян да Бэрмудзкіх астравоў і там пасьля гінуць, а маладыя вугры адтуль расплываюцца ў Эўропу і Амэрыку. Пры тым эўрапэйскія і амэрыканскія, (яны чуць адменныя) ніколі ня блудзяць і беспамыльна трапляюць у свае краіны. Толькі адзін раз у жыцьці яны робяць падарожжа ў акіян і ніколі ня блудзяць. Хто кіруе іхным падарожжам?

Тэрміты ў сваіх пабудовах, якія часам дасягаюць некалькі мэтраў вышыні, маюць цэлыя агароды грыбкоў. Ад даўна заалёгі думалі, што тэрміты гадуюць гэтыя грыбкі для ежы, але нядаўна швайцарская тропікальная экспэдыцыя выявіла, што грыбкі служаць для павышэньня тэмпэратуры ўнутры тэрмітніка на якіх 9-18 ступеняў больш чым навонках і да ўтрыманьня раўнамернае вільготнасьці паветра. Вось-жа тэрміты знайшлі сабе прыроднае цэнтральнае аграваньне і лябараторыю патрэбнае ім атмасфэры, ня маючы пры тым агулам ніякага паняцьця аб тэмпэратуры і атмасфэры.

У Афрыцы ёсьць птушкі, якія замест сядзець

на яйках будуюць нешта падобнае да інкубатараў. Яны зносяць на кучу вільготнае лісьце і калі яно пачынае прэць, у сярэдзіну кладуць свае яйкі. Мала таго, птушкі ўмеюць захоўваць у кучы сталую тэмпэратуру — калі надвор'е халаднее, яны кучу збольшваюць, калі цяплее — разграбаюць яе. Штучны інкубатар людзі збудавалі толькі ў 1875 г.

### НЯЗЬМЕННАСЬЦЬ ІНСТЫНКТАЎ

Можна было-б, вобразна кажучы, без канца множыць прыклады падзівугодных інстынктаў, бо сёньня на гэтую тэму існуе агранадная літаратура, але і вышэйпералічаных фактаў цалкам выстарчае, каб усьведаміць, што ніякая барацьба за існаваньне, ніякія тэорыі аб прыстасаваньні ня могуць даць належнага выясьнення паўстаньня інстынктаў, бо як відаць хоць-бы з вышэйшых прыкладаў, паўстаньнем інстынкту мусіла кіраваць нейкая вышэйшая разумная, усюдыпрысутная і ўсёведаючая сіла, а не якіясь сьляпыя прыпадкі, што ляжаць у аснове тэорыі барацьбы за існаваньне.

Калі-б прыстасаваньне арганізму магло прычыніцца да паўстаньня нейкага інстынкту, дык зразумела, што гэтае-ж прыстасаваньне мусіла-б уплываць на зьмену інстынктаў у зьвязку са зьменаю абставін жыцьця. Тымчасам інстынкты астаюцца нязьменнымі. Ужо гаворачы аб сфэксах успаміналася, што гэтая асва засыпае норку нават і з нездавальняючаю колькасьцю ежы для сваіх лярваў, калі дзеля нейкіх прычынаў спараліжаваныя ахвяры гінуць каля норкі. Падобна і пчала тынкоўка, калі напоўніць сваю чаропачку мёдам, ужо не зьвяртае больш увагі, ці хто пашкодзіў дно чаропачкі, ці выпусьціў мёд — кладзе туды яечка і замуроўвае вечка.

Калі самыя інстынкты бываюць падзівугодныя дык і іхняя застыласьць пераважна бывае такою-ж. Напрыклад шэрая дзікая гусь робіць гняздо ў чароце, але толькі седзячы. Дзеля гэтага яна выбірае адпаведнае мейсца, садзіцца там і пачынае дзюбам нахіляць да сябе акружаючы чарот, каб стварыць навакол сябе вал. Калі чароту выявіцца замала, яна пробуе выцягаць магчыма найдалей сваю шыю, каб дастаць чароціны, але калі міма гэтага вал будзе замалы, пакідае пачатае гняздо і шукае новае мейсца ў больш густым чароце, бо яе інстынкт кажа ёй рабіць гняздо толькі седзячы.

Таксама і хатнія жывёлы ўжо ад тысячагодзьдзяў жывуць у зьмененых да непазнаньня ўмовах, але захоўваюць некаторыя інстынкты, якія ім зусім непатрэбныя. Напрыклад каты і сабакі засыпаюць сваё лайно і нават тады, калі ня маюць чым засыпаць усёроўна грэбаюць нагамі.

Праўда, ня ўсё інстынкты аднолькава нязьменныя. Побач зусім нязьменных, быццам застыўшых, ёсьць так-жа і такія, што да пэўнае ступені дазваляюць на некаторыя адхіленьні адпаведна да абставін. Напрыклад між тых-жа адзінока жывучых восаў у Індыі жыве асва эўмэна, якая можа пару дзён прыносіць вусьняў у адну каморачку, калі іх адтуль усьцяж выкрадаюць. Але гэтая асва каморачкі будуе сама і не засклепляе іх, пакуль не напоўніць спараліжаванымі вусьнямі. Відаць дзеля гэтага яе можна штучна змусіць прыносіць у адну каморачку больш пажывы, чым гэта яна робіць звычайна. Аднак наяўнасьць гэткіх інстынктаў ні ў чым не зьмяняе іхняе сутнасьці, ані тымбольш поўнае нязьменлівасьці большае часткі з іх.

Дзеля нязьменлівасьці інстынктаў шматлікія віды жывёлаў зусім выгінулі. Сёньня палеанталёгія знайходзіць толькі касьцякі, ці акамянеласьці некаторых з іх. І гэтыя касьцякі разьбіваюць у пух тэорыю паводля якое інстынкты ёсьць быццам формаю прыстасаваньня арганізму да ўмоваў жыцьця, бо-ж выгінулі гэныя жывёлы толькі дзеля таго, што не змаглі прыстасавацца да зьмененых прыродных абставінаў, хоць тыя зьмены і адбываліся паволі на працягу тысячагодзьдзяў.

І наадварот ёсьць некаторыя інстынкты вельмі карысныя для жывых істотаў, якія трацяцца падчас зьмену відаў жывёлаў. Калі-б трымацца матэрыялістычнае тэорыі эвалюцыі, якая цьвердзіць, што вышэйшыя жывёлы паўстаюць з ніжэйшых бяз ніякага ўмешваньня Вышэйшае Сілы, дык няма ніякага выясьненьня, чаму людзі ад нараджаньня ня ўмеюць плаваць і нават хадзіць, хоць усе сысуны маюць гэтыя здольнасьці і перадаюць іх сваім нашчадкам у спадку. Матэрыялістычная тэорыя цьвердзіць, што да вытварэньня нейкага інстынкту служыць векавое паўтарэньне нейкае дзейнасьці. Памінаючы ўнутраную супярэчнасьць гэтага цьверджаньня, бо-ж паўтараецца толькі тая дзейнасьць, якая ўжо аднойчы была выканана і мела прычыну свайго паўстаньня; яно супярэчыць фактам, бо-ж ад заранься свайго існаваньня людзі ходзяць, а нованароджаныя дзеці ніяк не атрымоўваюць ў спадку гэтае здольнасьць, хоць ногі толькі на тое і ёсьць, каб хадзіць. Горш таго, нат' навучыўшыся хадзіць, калі чалавеку трапіцца няшчасьце праляжаць у летаргічным сьне даўжэйшы час, дык забываецца хадзіць і мусіць потым вучыцца хадзіць, як дзіця.

Дакладнейшыя і глыбейшыя досьледы нязьлічаных формаў інстынктаў спрычыніўся да таго, што сёньня ўжо ніхто з паважнейшых вучоных не гаворыць аб магчымасьці выясьненьня іх паходжаньня пры помачы эвалюцыйнае тэорыі, і гэта сталася пасьля дакладнейшага пазнаньня тых фактаў, на якіх калісь апіралася самая тэорыя. Сучасны ангельскі дасьледнік прыроды Сульлівэйн кажа: «У сучасным стане прырода-

знаўства праз мэханічнае выясьненьне жыцьця, ня прыходзіцца да яго бліжэй». Пасьля доўгавяковых досьледаў сёньня стае больш ясным чым калі, што сіла, якая дала жывым арганізмам падзівугодную здольнасьць прыстасаваньня да жыцьця ў форме інстынктаў, ня ёсьць у самым арганізьме. Некаторыя вучоныя на гэтым цьверджаньні абмяжоўваюцца, прызнаючы сябе некампэтэнтнымі шукаць тую сіў далей, бо гэта не ўвайходзіць у абсяг іхных досьледаў. Аднак мы маем права і нават абавязак спытацца: Дзе-ж ёсьць тая сіла? Адзіным адказам на гэта ёсьць адказ: Гэтая сіла гэта — Божая ўсемагутнасьць.

## ДУМКІ СУЧАСНЫХ ВУЧОНЫХ

Закранаючы нейкае навуковае пытаньне, кожнаму цікава ведаць думку найбольш кампэтэнтных у данай галіне веды вучоных. Думкі прыродаведаў адносна рэлігіі ўжо падаваліся ў «Божым шляхам». Нр. 60, дык няма патрэбы іх тут паўтараць, зьвернем толькі ўвагу на тых вучоных і перадусім сучасных, якія выказалі свае думкі адносна закранёнага вышэй пытаньня.

Выдатны нямецкі фізыялёг Іван Мюльлер (1801-1858) пісаў: «Інстынктыўныя дзеяньні паказваюць нам, што сіла, якая дзейнічае паводля адвечнага закону для асягненьня азначанае мэты, гэта — Божае думаньне, якое не супадае з нашаю сьведамасьцю».

Нават у часе, калі асабліва ў Нямеччыне шырыўся варожы да рэлігіі настрой у прыродазнаўстве, нямецкі заалёг Бэрнард Альтум (1824-1900) казаў: «Жывёла ня думае, не разважае, не намячае сваіх мэтаў, і калі міма гэтага дзейнічае мэтазгодна, дык значыць, што Хтосьці іншы думае за яе». І на іншым мейсцы дадаваў: «Напрыклад адлёт птушак у вырай зьяўляецца актам послуху птушак вышэйшай Кіруючай Руцэ, іманэнтнаму закону».

Між сучасных прыродаведаў часта можна пачуць думку, што навейшыя асягненьні навукі ня толькі што ня супярэчаць рэлігіі, але што глыбокае вывучэньне прыроды вядзе да Бога. Нямецкі біялёг і хэмік Вольфганг Оствальд кажа: «Чым больш мы пазнаём жыцьцё прыроды, тым больш пераконваемся што толькі вера ва Усемагутнага Сатварыцеля неба і зямлі, Які ад веку ўстанавіў сьветапарадак, разьвязвае загадку прыроды і чалавека. Ня толькі людзкое сэрца абвяшчае нам Бога, але і прырода, асабліва калі мы бачым яе фауну і флёру. Хто глыбей пранікае ў чары прыроды, той заўсёды прыходзіць да Бога — Сатварыцеля сьвету». Іншы нямецкі вучоны Фохт, які вызначыўся сваімі працамі ў галіне анатоміі і фізыялёгіі, гаворачы аб фізіялягічных працэсах, усклікваў: «Які вялікі і адначасна просты ўвесь гэты працэс. Толькі Боства магло задумаць і выканаць гэта. Чалавеку-ж астаецца толькі разважаць і дасьледаваць, ды праз гэта прыбліжацца да Бога».

Сучасны прэзыдэнт Акадэміі Навук у Нью Ёрку Морысон Грэсі сьцьвярджае: «Мы стаімо на сьвітаньні новае навуковае пары і кожнае новае навуковае адкрыцьцё ўсё выразьней выяўляе нам дзела разумнага Сатварыцеля. На працягу апошніх 90 гадоў, якія мінулі ад сьмерці Дарвіна, праароблена годныя падзіву адкрыцьці і мы аснояўваючыся на ведзе, пабудаванай на веры, што раз бліжэйшыя ў духу навуковае пакоры пазнаём Бога». Гэты-ж вучоны апублікаваў цікавы артыкул, у якім падае сем рацыяў, дзеля якіх ён як вучоны верыць у Бога.

Ангельскі вучоны Коульзон цяперашні прафэсар матэматыкі ў Оксфордзкім унівэрсытэце, прамаўляючы ў 1954 г. да сяброў Брытыйскага Навуковага Таварыства, казаў: «Калі навука ёсьць біялягічнаю, сацыяльнаю, духоваю, маральным сродкам, або ачышчаючым уплывам, дык тады мы можам сказаць, што яна ёсьць так-жа дзейнасьцю істотна рэлігійнаю... Навука становіцца мовою, пры помачы якое апісваецца Бога, а людзі навукі далучаюцца да грамады Ягоных вяшчальнікаў».

Некаторыя вучоныя акрамя шчырага выяўленьня іхняга рэлігійнага перакананьня выказваюць так-жа радасьць з таго, што іхняя навуковая праца ўмагчыміла ім адчытаць у прыродзе «некаторыя адціскі Божых пальцаў», як гэта хораша сказаў вялікі амэрыканскі фізык Р. А. Мілікан (1869-1953). Сапраўды гэта ёсьць тая радасьць, з адчытваньня кнігі прыроды, аб якой казаў Карляйль. Сучасны нямецкі фізык Фрыдрых Дэсаўэр кажа, што для яго навукова-дасьледчая праца ёсьць «дарогаю да аб'яўляючагася Бога».

Уважліваеназіраньне над прыроднымі зьявішчамі ад вякоў выклікала ў людзей думку аб Сатварыцелю і захапленьне Ягонаю бесканечнаю веліччу і ўсемагутнасьцю. Псальмапевец ускліквaў калісь: «Як-жа велічныя ёсьць дзеі Твае, Госпадзе! Ты ўсё прамудрасьцю стварыў» (Пс. CIII, 24).

І сапраўды ня толькі у Божых творах, але нават і ў пазнаваньні Яго ёсьць нявычарпальная прамудрасьць. Агульна ведама, што ў мінулым стагодзьдзі бязбожнасьць была шырока распаўсюджаная ў некаторых навуковых кругох і бязбожны рух пачаў быў выступаць супраць Бога і рэлігіі быццам у імя навукі, праракуючы хуткае зьнішчэньне рэлігіі наагул. Але сталася зусім ня тое. Праз некалькі дзесяткаў гадоў навука накіравалася ўпярод зусім ня тым шляхам, як гэта плянавалі бязбожнікі. Замест станца прыладаю ў змаганьні з рэлігіяй сёньня навука прыносіць

усьцяж новыя і новыя факты, узбагачваецца новымі адкрыцьцямі, якія пацьвярджаюць доказы аб існаваньні Бога.

Калісь апостал Павал пісаў аб пазнаваньні Бога: «Бо нябачымае Яго, а так-жа адвечная Ягоная сіла і Боскасьць, робяцца пазнавальнымі для сатварэньняў сьвету праз разважаньні аб творах, так што яны (сатварэньні) ёсьць без апраўданьня« (Рым. I, 20). Тым больш сёньня ёсьць без апраўданьня тыя, якія сьведама стараюцца ўцякаць ад Бога, ня хочуць бачыць навокал сябе Ягоных сьлядоў, ня хочуць адчуць на сабе Ягонае Рукі і пачуць у сваім сумленьні Ягонага голасу.

**а. Л. Гарошка**

# Зарніца рэлігійна-маральнага адраджэньня сьвету

Людзі маглі-б уладзіць сабе жыцьцё шмат лепш, чым цяпер ёсьць. Мы гэта маглі-б зрабіць хоць часткава, і тое што ёсьць у нашых магчымасьцях зрабіць трэба.

Ведама, што ідэалу ў гэтым кірунку падчас дачаснага жыцьця асягнуць нельга, бо шмат чаго залежыць не ад нас, але шмат такі залежыць і ад нас, ад людзей. Колькі прыкрасьцяў, колькі цярпеньняў робяць людзі самі сабе і сваім бліжнім! Вельмі часта мы робім гэта нясьведама, непадумаўшы. Але незалежна ад таго, як такія прыкрасьці робяцца, яны атручваюць нашае жыцьцё. А колькі іх робіцца штодзенна! Колькі спрычыняецца большых і меншых няшчасьцяў ад якіх цярпіць не адзін-другі чалавек, але цэлыя мільёны людзей не аднаго, а некалькі пакаленьняў.

Пры добрай волі, з любоўю бліжняга ў сэрцы можна было-б адхіліць шмат бяды і няшчасьцяў ад чалавецтва. Можна было-б ашчадзіць сабе ня толькі мноства цярпеньняў, сьлёз, але паводля магчымасьці, што і павінна быць, памагаць адны другім у няшчасных выпадках, якія стаюцца з незалежных ад нас прычынаў.

Для асягненьня ўсяго гэтага неабходна мець спагадныя ўзаемныя адносіны, абаснаваныя на адвечным праве любові Бога і бліжняга. Неабходна стварыць усім людзям магчымыя ўмовы жыцьця, каб у дастатковай ступені былі заспакоеныя і матэрыяльныя і духовыя патрэбы чалавека. Неабходна забясьпечыць свабоду сумленьня, свабоду выконваньня рэлігійных практыкаў. З духоваю свабодаю нясумяшчальны ніякі прыгнёт; ані рэлігійны, ані нацыянальны, ані клясавы, ані асабовы. Такую свабоду магчыма забясьпечыць толькі тады, калі сваю дзейнасьць людзі будуць абасноўваць на хрысьціянскай любові і справядлівасьці.

«Не рабі другому таго, што табе самому ня міла». Пад словам «другі» трэба разумець кожнага паасобнага чалавека, кожную сям'ю і кожны народ. З гэтым залатым правілам узаемных адносінаў ніяк ня сумяшчальная сьведамая крыўда ані паасобнага чалавека, ані нейкае грамады, ані тымбольш цэлага народу.

Мала ня крыўдзіць, трэба ўсюды і ўва ўсім захоўваць справядлівасьць, даць кожнаму, што яму слушна належыцца. І да поўнаты гармоніі ўзаемных адносінаў трэба, каб справядлівасьць была спалучана з любоўю як у адносінах між паасобнымі людзьмі, так і ў грамадзкіх дачыненьнях.

Гэта ўсё патрэбна для агульналюдзкага дабра. Але да шчасьця чалавека патрэбна яшчэ чагосьці больш. Найлепшыя адносіны яшчэ не ашчасьліўліваюць чалавека, ані матэрыяльны дабрабыт, ані ідэальны парадак і супакой — да шчасьця неабходна: разьвязаньне праблемы цярпеньня, якая не пакідае чалавека нават пры найлепшым грамадзкім ладзе, забесьпячэньне асягненьня апошняе дачаснае і вечнае мэты, задаваленьне найвышэйшых ідэалаў чалавека.

Шчасьця сапраўднага, вечнага чалавек у дачасным жыцьці асягнуць ня можа, гэта праўда, але шматлікія абставіны жыцьця, залежныя ад чалавека, магчыма ўладзіць так, палепшыць іх да такое ступені, што можна гаварыць аб шчасьці і то аб такім шчасьці, што зьяўляецца зарукаю вечнага шчасьця.

Ад вякоў людзі думалі над гэтымі пытаньнямі, шмат аб гэтым пісалі і гаварылі, нямала такжа рабілі, але ня шмат асягнулі. Пасьля назьлічаных няўдалых меркаваньняў, пасьля горкіх расчараваньняў палепшыць людзкую долю паводля розных людзкіх плянаў і праграмаў, якія не зьвярталі ўвагі на Божыя законы, усё больш і больш стаецца ясным для ўсіх, хто шчыра жадае пазнаць праўду, што чалавек можа дайсьці да шчасьця толькі праз хрысьціянства.

### ПЕРАШКОДЫ НА ШЛЯХУ НАПРАВЫ

**«Бог быў у Хрысьце, годзячы з сабою сьвет»** (II. Кар. V,19).

Сьвет — гэта значыць усе людзі — створаныя Богам для Яго хвалы, але праз грэх сталіся Яго ворагамі. Горш таго, гэты сьвет стаўся такжа адным з ворагаў самога чалавека. Але ці-ж так яно мусіць быць? Ці людзі — гэтыя найдасканалейшыя Божыя творы на зямлі — ці яны так маральна змарнелі, што замест таго, каб быць прыяцелямі адны другіх, імкнуцца да Бога — так

зглумілі сваё прызначэньне, што толькі абцяжаюць сваё існаваньне, збольшваюць сваё дачаснае і вечнае цярпеньне?

Ясна, што не!

Бог з свайго боку зрабіў усё, каб людзі маглі асягнуць вечную мэту. У часе Старога Запавету Ён пасылаў ад часу да часу прарокаў, каб яны падрыхтоўвалі грунт для прыходу на сьвет Ісуса Хрыста, Які меў направіць шкоды спрычыненыя грахом. Калі прыйшоў час, Бог паслаў свайго Адзінароднага Сына, каб Ён сваімі цярпеньнямі, мукамі на крыжы і сьмерцю за людзкія грахі даканаў справы адкупленьня людзей, паеднаньня людзкога роду з Прадвечным Айцом. Хрыстос усё гэта зьдзейсьніў. Ён даў людзям навуку, як жыць і сродкі, што трэба рабіць, каб асягнуць паеднаньне з Богам і ня страціць Яго цяпер і ў вечнасьці.

Хрыстос, як найдасканалейшы наш Настаўнік, даў нам так-жа найбольш практычныя наказы і рады для асягненьня дачаснага шчасьця. Ён палажыў трывалы фундамант у гэтым кірунку. Аднак зло ад часу грахоўнага ўпадку так укаранілася на сьвеце, што ня гледзячы на дзьве тысячы гадоў існаваньня хрысьціянства, часы мінулае эпохі можна назваць толькі **зарніцаю** новага шчасьлівейшага дня для чалавецтва.

Так! Мінулыя часы, як і цяперашнія, гэта толькі зарніца надыходзячага дня, бо яшчэ большая частка людзей не пазнала навукі Хрыста. А спаміж людзей ахрышчаных, нават і тых, што належаць да Каталіцкае Царквы, шмат ёсьць такіх, каторыя здаецца нічога супольнага з хрысьціянствам ня маюць, бо жывуць як пагане!

А нават і так бывае, што некаторыя каталіцкія сем'і, дзе ўсе хатнія ёсьць практыкуючымі вернікамі, але ніяк ня могуць з сабою жыць у згодзе. Што-ж пасьля гэтага гаварыць аб тых, якія ня ведаюць хрысьціянскае навукі, або яшчэ горш аб тых, што ў жыцьці агулам ня прытрымліваюцца ніякіх рэлігійных прыпісаў?!

Нам часта гаворыцца аб патрэбе любові бліжняга, а гэтае любові так мала відаць у жыцьці, чаму гэта так? Што гэта такое? Ці гэта толькі тое, як кажа сьв. ап. Павал: «Не разумею, што раблю, бо не раблю добрага, каторага хачу, але благое, каторага ня люблю» (Рым. VII,15). Ці гэта тое, што ў некаторых людзей ёсьць такія характары, з якімі аніяк немагчыма зжыцца? Ці гэта проста тое, што людзі ня хочуць апаноўваць сваіх дрэнных схільнасьцяў? — Якія-б ня былі прычыны гэтага зьявішча пры разумным рэлігійным узгадаваньні ў душы кожнага чалавека маглі-б вырасьці прыгожыя кветкі хрысьціянскіх цнотаў, а калі запусьціць духовае жыцьцё, дык у душы вырастае асот. Калі людзі ня знаюць, або яшчэ горш, калі ня хочуць знаць асноваў хрысьціянізму, спрычыняюць сабе шмат бяды. Замест таго, каб навучыцца адносіцца да сябе сапраўды пахрысьціянску, каб адны другім памагаць, адны другіх ратаваць — яшчэ нават адны другіх мучаць, прасьледуюць, забіваюць.

Нявыконваньне навукі Хрыста ў асабістым і грамадзкім жыцьці няраз можа спрычыніцца да паважных нутраных цярпеньняў. Ужо ад даўна ведама, што найбольш нешчасьлівыя тыя людзі, якія наагул ня хочуць кіравацца правам Божым.

Хрысьціянізацыя, а ўсьлед за тым і палепшаньне сьвету йдзе паволі дзеля некалькі прычынаў. Адною з іх ёсьць сапсаваная натура чалавека, праз якую ён больш схільны да дрэннага чым да добрага; і трэба шмат працы, каб чалавека ўзгадаваць на Божае дзіця. Самая-ж ўзгадаваўчая праца йдзе паволі, бо добры Бог даў чалавеку вольную волю і нікогда да сябе гвалтам ня цягне, таму чалавек мае магчымасьць супрацівіцца Богу. Праўда, кожны такі чалавек, які сьведама супраціўляецца Божым правам робіць блага, бо стварае бязлад, ад якога цярпіць сам і спрычыняе цярпеньне іншым, але трэба нямала часу, каб гэта ўсьведаміць.

Калі адзін чалавек злое волі можа спрычыніць перашкоды у палепшваньні сьвету, дык што тады гаварыць, калі нейкая цэлая грамада, або яшчэ горш, верхаводзячыя кругі нейкага народу пачнуць кіравацца законамі ня згоднымі з Божым правам! Такое грамадзянства само коціцца да загубы і цягне за собою іншых. Там ня толькі што няма палепшаньня але наадварот, пагоршаньне. А хто ад гэтага цярпіць? Людзі! І чым большая грамада ці народ, якія кіруюцца бязбожным правам, тым большае спрычыняюць няшчасьце і для сябе і для іншых.

Другую асабліва паважную перашкоду ў ажыцьцяўленьні хрысьціянскае паправы сьвету стварае самалюбства — эгаізм. Ён можа быць асабовы, але можа быць так-жа і народны. Эгаісты няраз сьведама дзейнічаюць на шкоду, абы толькі паказаць уласнае «я». У хрысьціянскай навуцы ёсьць нямала сродкаў для лячэньня эгаізму, але дзейнічаюць яны толькі тады, калі хто іх шчыра ўспрыймае. Калі-ж наадварот, нехтя ня толькі што не апаноўвае эгаізму, але яшчэ яго раздзьмухвае, дык можа дайсьці да хваравітага самаабажаньня — эгатызму, які акрамя свайго «я» ня лічыцца з нічым і з нікім.

Палепшаньне сьвету праз хрысьціянізм мае быць ня толькі палепшаньнем у сэнсе маральным, але так-жа і матэрыяльным, бо-ж навука Хрыста мае на ўвеце ня толькі збаўленьне душы кожнага чалавека, але і тое, каб гэты чалавек меў так-жа адпаведны матэрыяльны дабрабыт. Хрыстос падчас туземнага жыцьця адносіўся чула да патрэбаў ня толькі людзкое душы, але і да патрэбаў цела. Калі ў пустыні людзі па некалькі дзён неадходна слухалі яго навуку і ня мелі ўжо чаго есьць, дык

загадваў вучням накарміць слухачоў, а калі тыя ня мелі чаго даць, дык цудоўна памножыў хлеб і рыбу.

Культура і поступ тэхнікі ёсьць важнымі дзейнікамі ў палепшаньні матэрыяльнага быту чалавека і аб іхным разьвіцьці трэба старацца, але ў першую чаргу неабходна падняць духовую культуру, бо без яе розныя тэхнічныя асягненьні ў руках благога чалавека могуць быць выкарыстаны для дрэнных і шкодных мэтаў.

Вось-жа для направы сьвету патрэбна пазнаньне Бога, пазнаньне асноваў хрысьціянскае веры і маралі, але найважнейшае гэта патрэбна ўспрыйняць Божае права. Коратка кажучы, для направы сьвету трэба каб чалавецтва зьвярнулася да Бога і ўспрыняло хрысьціянскі спосаб жыцьця.

## НАШАЯ Ў ГЭТЫМ ДЗЕЙНАСЬЦЬ

Як зарніца абвяшчае прыход дня, так калісь Прачыстая Марыя папярэдзіла прыход на зямлю Сына Божага. Так і цяпер роля Марыі ў прыбліжэньні лепшых часоў ёсьць аграмадная. Неабходна зьвяртацца да Яе ў гэтай справе, слухаць Яе рады, насьледаваць Яе цноты, маліцца да Яе, бо Яна зарніца дня; прадвесьніца новых, лепшых часоў; аднавіцелька сьвету як называе Яе сьв. Бэрнард.

А праз Марыю да Хрыста, да крыніцы самога Сьвятла, ад каторага бярэ сваё хараство і Зарніца — Яго матка Марыя.

Магутным дзейнікам у прыбліжэньні лепшых часоў ёсьць **малітва.** Малітва магчымая ўсюды і заўсёды, пры кожнай нагодзе, нават там, дзе ані сваею працаю, ані якім іншым чынам нічога ня можам парадзіць.

Там-жа дзе нешта неабходна рабіць і калі мы гэта можам зрабіць, дык бязумоўна трэба **працаваць.** І як-жа ўдзячная гэткая праца: дакінуць сваю хоць дрыбіну, каб сьвет быў крыху лепшым. Перш-на-перш трэба распачаць ад сябе самога, каб я стаўся годным хрысьціянінам і далей, каб гэткім сталася тое асяродзьдзе, дзе жыву.

У жыцьці людзей аграмаднае значэньне мае **добры прыклад.** І тут вялікая роля для кожнага верніка.

Мы не павінны дзівіцца з таго, што хрысьціянізацыя сьвету йдзе так паволі, бо глездзячы на сябе самых, бачым, як цяжка стацца сапраўднымі хрысьціянамі, як нам цяжка паправіць свае дрэнныя нахілы. А ўжо каму-як-каму а нам дык даўно пара навучыцца жыць так, як Бог прыказаў.

Асабістае жыцьцё кожнага сапраўднага хрысьціяніна павінна быць неразлучна зьвязана з апостальствам. Гэта значыць, што мы самі павінны **жыць пахрысьціянску і другіх павінны заахвочваць да гэтага.** Дзеля гэтага трэба ўплываць ня толькі на розум нашых бліжніх, але так-жа і на пачуцьцё, і гэты апошні ўплыў часта мае большы посьпех, чым найбольш пераконваючыя разумовыя доказы.

Шмат можна так-жа прычыніцца да палепшаньня сьвету і **матэрыяльнымі сродкамі,** нашым **уплывам** і агулам стараньнем аб папраўе. Ува ўсёй гэтай дзейнасьці нам дадасьць сілы і ахвоты любоў Бога і бліжняга. «Любоў ёсьць падставаю сям'і, вузлом грамадзкасьці, зарукаю будучага шчасьця» (Гом 1802-1879).

Гэткая праца ўжо вядзецца ад даўна і хоць паволі, але йдзе ўпярод. Хрысьціянства, маючы ў сваёй аснове ўсеабыймаючую любоў, ёсьць зарукаю лепшае будучыні для ўсіх, а тым самым і для нашага народу. Хоць цяпер Беларускі Народ знайходзіцца ў вельмі цяжкіх абставінах што да разьвіцьця рэлігійнага жыцьця, але вера ў народзе ня згасьне ніколі, а з вераю ў Бога і любоўю у сэрцы ён дачакаецца лепшае долі.

## РОЛЯ КАТАЛІЦКАЕ ЦАРКВЫ

Праца паасобных людзей над збліжэньнем лепшых часоў, якою-б яна ня была актыўнаю і плённаю, мае абмежаваны круг дзейнасьці. Такая праца заўсёды ёсьць больш плённаю і больш далёкасяжнаю, калі вядзецца зарганізована. З волі Бога гэткую арганізацыю заснаваў сам Ісус Хрыстос — ёю ёсьць Каталіцкая Царква. Праўда галоўная роля Каталіцкае Царквы ёсьць вясьці людзей да Бога, але яна так-жа дбае ў меру магчымасьці і аб дачасных патрэбах кожнага верніка. Дзеля нясеньня помачы ўжо ад даўна былі заснаваныя спэцыяльныя манашыя згуртаваньні, а потым утворана розныя дабрадзейныя арганізацыі і ўстановы, якія займаюцца ўспамаганьнем людзей залежна ад патрэбаў часу.

Акрамя матэрыяльнае помачы дабрадзейныя ўстановы і арганізацыі Каталіцкае Царквы пашыраюць хоць паволі, але стала дабрадзейны ўплыў на сьведамасьць людзей у засягу свае дзейнасьці. Толькі людзі, якія не разумеюць, або і зусім ня ведаюць адвечных праўдаў, ня бачаць тых вялікіх карысцяў, якія дае ім рэлігія і Царква. Тыя што глядзяць на ўсё толькі вачыма дачаснасьці, могуць уважаць працу Царквы над маральнаю направаю сьвету за непатрэбную. А бязбожнікі адносяцца нават варожа да дзейнасьці Царквы, бо яна вучыць любові і гэта супярэчыць дзейнасьці бязбожнікаў, якія навучаюць нянавісьці.

Трэба памятаць, што дзейнасьць Царквы сваё найглыбейшае натхненьне мае ад духа Божае любові і вядзе чалавецтва да крыніцы гэтае любові — да Бога. Адносна патрэбаў чалавека **Царква карыстаецца сродкамі як прыроднымі так**

і надпрыроднымі, якіх ня мае ніводная людзкая ўстанова. Сродкі, якімі карыстаецца Царква, ёсьць бязумоўна найбольш дзейнымі для палепшаньня сьвету, але дзеля гэтага неабходна нашае супрацоўніцтва.

Як Хрыстос перамог зло дабром, так і Царква пераможа зло дабром і яе прасьледавацялі навернуцца. І тады ўсе прыйдуць да Хрыста і прызнаюць Яго сваім Валадаром. Тады «станецца адно стада і адзін пастыр» (Ів. X,16). І для ўсіх будзе даволі ня толькі нявычарпальных Божых ласкаў, але і матэрыяльных сродкаў, бо «Бог багаты гаспадар, Ён мае больш чым раздаў», кажа народная мудрасьць.

Ісус адыходзячы з зямлі, пакінуў тут свайго заступніка, каб ён кіраваў справамі Царквы. Гэтым заступнікам Ісуса Хрыста ёсьць папа рымскі. Першым з іх быў сьвяты апостал Пятро. І кожны наступнік ап. Пятра ёсьць добрым пастырам для ўсіх народаў; ён турбуецца і аб асягненьні вечнага збаўленьня ўсіх людзей і аб палепшаньні іх дачаснага жыцьця. Пэўна-ж да гэтага трэба каб ўсе хутчэй прышлі да Хрыстовага стада, а ня блудзілі па бездарожжах.

І мы, беларусы, куды-ж мы маем ісьці, дзе будзем шукаць лепшае дарогі для асягненьня нашае дачаснае і вечнае мэты, як не на ўлоньні Хрыстовае Каталіцкае Царквы? Калі некаторыя з першых вучняў Хрыста, пачуўшы цьвёрдыя словы Ягонае навукі, адыйшлі, дык Хрыстос зьвярнуўся да апосталаў: «Ці ня хочаце і вы адыйсьці? І адказаў Яму Сымон Пятро (ў імені ўсіх апосталаў): Госпадзе, да каго-ж мы пойдзем?» (Ів. VI,67-68). І мы так скажам і астанёмся пры Ім, бо над Яго Божае слова — Эвангелію ніякая людзкая філязофія нічога разумнейшага ня мае.

**Д. Анісько**

# Беларускія адраджэнскія рэлігійныя дзеячы

Беларускі адраджэнскі рух яшчэ параўнаўча малады, але асягненьні ўва ўсіх галінах беларускага нацыянальнага, культурнага і духоўнага жыцьця зроблены паважныя, бо туды ўложана вялікая ахвярная праца людзей, якія ня раз усё жыцьцё аддалі для дабра свайго народу. Бязумоўна гэткія людзі мусяць быць ведамыя перадусім самым беларусам.

Аб сьвецкіх адраджэнскіх дзеячох у беларускай пэрыядычнай і непэрыядычнай прэсе ўспамінаецца пры розных нагодах даволі часта, але чамусьці да гэтага часу вельмі мала ўспаміналася аб рэлігійных дзеячох. Праўда, гэта дзеецца нават не са злой волі і не з забыцьця, а найчасьцей дзеля таго, што самыя-ж дзеячы праводзілі сваю працу ціха, нават укрыта, умысна стараючыся аставацца ў ценю. Аднак іхняя шчырая ахвярная праца ёсьць вялікім духовым скарбам беларускага народу і як кожны духовы скарб азначаецца тым, што тым больш узрастае, чым больш з яго карыстаюць іншыя, і гіне — калі аб ім забываюцца. Мы ні ў якім выпадку ня можам дапусьціць ня толькі да загібелі, але нават да зьменшаньня таго скарбу, здабытага коштам ахвярнага жыцьця выдатных сыноў нашага народу і дзеля гэтага ў меру магчымасьці будзем падаваць весткі аб жыцьці і дзейнасьці тых беларускіх каталіцкіх сьвятароў з пачатку гэтага стагодзьдзя, аб якіх знойдуцца больш менш дастатковыя інфармацыі.

**Рэдакцыя**

# Айцец Ўладыслаў Талочко

Дзейнасьць а. Талочкі ў беларускім адраджэнскім руху наагул, а ў рэлігійным у асаблівасьці вельмі значная, але дзеля ягонае сьціпласьці вестак аб ягоным жыцьці і ягонай дзейнасьці ведама няшмат. Аўтар гэтых радкоў даўжэйшы час вёў перапіску з айцом Уладыславам, але ў часе вайны ўся карэспандэнцыя загінула. І цяпер, пішучы аб ім, прыходзіцца карыстацца некаторымі весткамі з працаў а. Адама Станкевіча і ўласнымі ўспамінамі.

Уладыслаў Талочко радзіўся ў спольшчанай сям'і беларускае шляхты ў 1887 г. на Віленшчыне. Аб сабе ён наагул ня любіў гаварыць дык аб ягонай маладосьці мала што ведама. Адчуваючы нахіл да сьвятарства, пасьля пачаткавае школы і адпаведнае падрыхтоўкі, уступіў у Віленскую Каталіцкую Духоўную Сэмінарыю і там не зважаючы на пануючы польскі дух быў сьведамым беларусам. Гэта для шматлікіх было вельмі дзіўным, бо ён слаба гаварыў пабеларуску.

Па сканчэньні Сэмінарыі студыяваў філязофію і багасловію ў шырокаведамым унівэрсытэце ў Інсбруку (Аўстрыя). Там ён навязаў блізкія зносіны з Львоўскім грэка-каталіцкім мітрапалітам Я. Э. Андрэям Шэптыцкім і захаваў іх да канца свайго жыцьця.

У 1909 г. ён атрымаў сьвятарскія сьвячэньні. Цяпер дзейнасьць айца Уладыслава пачала пашырацца з дня на дзень. У тым-жа 1909 р. ён удзельнічае на 2-ім Велеградзкім унійным зьезьдзе і навязвае там шматлікія знаёмствы, якія яму даюць нагоду зацікавіць чужынцаў беларускаю рэлігійнаю справаю.

У 1911 г. бачым а. Уладыслава ўжо ў Вільні,

але яшчэ ў тым-жа годзе ён удзельнічаў на 3-ім Велеградзкім унійным зьезьде.

Дзейнасьць а. Талочка ў Вільні была вельмі ажыўленая, пры тым аднак вельмі цяжкая. Тагачаснае духоўнае каталіцкае кіраўніцтва ў Вільні было апанована палякамі, настроенымі няпрыхільна да ўсяго што было беларускае. Каталіцкі беларускі арганізацыйны рух рабіў тады яшчэ першыя крокі і выклікаў паважны яўны і прыхаваны супраціў з боку палякаў і некаторых спалянізаваных беларусаў. Вялікую ўсьведмляючую дзейнасьць між беларусаў каталікоў рабіла першая беларуская каталіцкая газэта «Bielarus». Выходзіла яна ад 1913 да 1915 г. пад рэдакцыяй Браніслава Пачопкі пры паважнай маральнай і нават у меру магчымасьці матэрыяльнай падтрымцы а. Уладыслава.

З мамэнтам выбуху першае сусьветнае вайны ўтварылася ў Вільні Беларускае Таварыства Помачы Пацярпеўшым ад Вайны. Хоць тады ў Вільні ўжо было некалькі беларускіх ідэалягічных групаў, але ў Т-ва ўвайшлі прадстаўнікі ад усіх палітычных кірункаў — гэта було сапраўды суцяшаючае зьявішча, што беларусы ў абліччы ваенных падзеяў аб'ядналіся на грунце супольных нацыянальных інтарэсаў і супольнае народнае працы. У складзе Таварыства пераважалі каталілі, але было так-жа нямала праваслаўных. Ад каталіцкага духавенства ўвайходзілі ў Таварыства айцы: Уладыслаў Талочко і Янка Семашкевіч.

Праца Т-ва была вельмі шырокая. Акрамя асноўнае дзейнасьці — помачы ахвярам вайны, яно арганізавала беларускія школы; за пару гадоў на абшары Віленшчыны іх было больш двух сот; узноўлена беларускую прэсу і наагул рабілася ўсё тое, што было магчыма ў акупацыйных умовах. Ува ўсёй гэтай дзейнасьці а. Талочко прыймаў самы актыўны ўдзел, а ў беларускім каталіцкім руху ён быў сапраўдным галавою і будзіцелем. Пішучы аб тагачаснай ягонай дзейнасьці а. Адам Станкевіч кажа: «Усё, што ў тым часе рабілася беларускае каталіцкае — было справаю а. Талочка».

У лютым 1916 г. пачала выходзіць у Вільні беларуская газэта Homan; выходзіла яна двойчы ў тыдзень аж да 1918 г. У ёй а. Талочко апублікаваў шмат артыкулаў на тэмы беларускае культуры, гісторыі, рэлігіі — падпісваючы іх пераважна псэўдонімам Адам Саладух.

У 1916 г. быў зроблены першы крок у Вільні, каб беларуская мова заняла належнае ёй мейсца ў рэлігійным жыцьці. У адміністрацыю Віленскае дыяцэзіі была падана просьба, каб хоць у адным з віленскіх касьцёлаў дадатковыя набажэнствы, казаньні, катэхізацыя і споведзь адбываліся пабеларуску. Сам пачын і найбольшыя стараньні ў гэтай справе зрабіў а. Талочко. Духоўная ўлада дала вымінаючы адказ на просьбу; маўляў, няма нічога супраць беларускае мовы, але трэба ўстрымацца да канца вайны з новаўвядзеньнем.

Восеньню 1917 г. паўстала ў Вільні новая беларуская каталіцкая арганізацыя «Золак». Галоўнаю яе мэтаю была помач дзецям. «Золак» зарганізаваў у Вільні інтэрнат для дзяцей, потым заменены на прытулак, у якім працавалі ідэйныя каталічкі пад кіраўніцтвам а. Уладыслава. У 1918 г. у прытулку «Золаку» ўжо было 160 дзяцей, была пачаткавая беларуская школа, дзіцячы хор, тэатральны гурток, курсы для дзяцей дашкольнага веку, майстэрні для папраўкі вопраткі і вырабу абутку, а так-жа летняя калёнія ў Чорным Бары.

Ваенныя і міжнародныя падзеі хуткім крокам ішлі ўпярод, але яшчэ хутчэйшым крокам разьвівалася беларускае арганізацыйнае жыцьцё. Уканцы 1917 г. створана ў Вільні «Арганізацыйны Камітэт для сазыву Беларускае Канфэрэнцыі ў Вільні. Падобна як і ў Т-ва Помачы сюды ўвайшлі прадстаўнікі ад усіх беларускіх угрупаваньняў. Ад каталікоў увайшлі тыяж сьвятары, што і ў Т-ва айцы Талочко і Семашкевіч. Удзел каталіцкіх сьвятароў у гэтай арганізацыі быў вельмі не да спадобы палякам. Пасыпаліся нават пагрозы пад адрасам удзельнікаў. Польскі ксёндз Віктар Шылкевіч прыслаў а. Талочку ліст з іранічным жаданьнем, каб яго і Самешкевіча «не абмінула заслужаная кара». У адказ а. Талочко падзякаваў насьмешлівым тонам за пажаданьні і абяцаў, што не забудзецца аб кс. Шылкевічу, калі ў будучыні станецца якім беларускім дастойнікам, а тымчасам параіў яму грунтоўна вылечыцца ад нацыналістычнага чаду. Гэты ліст быў страшнаю бомбаю для польскіх шавіністаў, яго апублікована ў «Gazecie Warszawskiej» з адпаведнымі камэнтарамі

На пачатку 1918 г. Арганізацыйны Камітэт склікаў у Вільні Беларускую Канфэрэнцыю. Для ўдзельнікаў Канфэрэнцыі а. Уладыслаў адправіў Службу Божую у капліцы сьв. Казімера. Падчас багаслужэньня дзіцячы хор з прытулку «Золак» сьпяваў беларускія рэлігійныя песьні. Як сябра Камітэту а. Уладыслаў удзельнічаў у Канфэрэнцыі і сказаў зьмястоўную прамову. Між іншымі справамі на Канфэрэнцыі была прынятая пастанова ў справе беларусізацыі каталіцкага і праваслаўнага рэлігійнага жыцьця.

У тым-жа часе, як адбывалася Канфэрэнцыя, дня 25 студзеня заснавалася ў Вільні Беларускае Навуковае Таварыства, адным з першых сяброў Таварыства быў а. Талочко.

На сьвята Божага Цела 2. V. 1918 г. беларусы каталікі выступалі ў Вільні першы раз у працэсіі зусім афіцыяльна; хор «Золаку» пяяў падчас працэсіі беларускія рэлігійныя песьні. У гэтым была рука а. Уладыслава.

Падзеі 1918 г. на абшары Беларусі ставілі

перад усім народам паважныя і адказныя заданьні. Дзеля іх выкананьня 24. VIII. 1918 г. утвараецца ў Вільні Сувязь Культурна-Нацыянальнага Адраджэньня Беларускага Народу. Вядучую ролю ў гэтай арганізацыі меў а. Талочко. У тым часе газэта «Homan» спыніла свой выхад і беларусы каталікі планавалі выдаваць часапіс«Siejbit», але Віленская біскупская курыя лістом Нр. 1440 з 23. IX. 1918 забараніла а. Талочку супрацоўнічаць у праектаваным часапісе. Уканцы 1918 г. прыехаў у Вільню новы біскуп Я. Э. Матулевіч. На банкеце ў яго чэсьць прамаўлялі ад імя беларусаў а. Талочко і Іван Луцкевіч. Адносіны біскупскае курыі ад таго часу зьмяніліся на лепшыя, але затое сам новы біскуп цярпеў шмат нападаў з боку польскіх шавіністаў.

Далейшыя ваенныя падзеі і асабліва заняцьце польскімі войскамі Вільні стварылі паважную перашкоду для разьвіцьця беларускага каталіцкага жыцьця. Тады а. Талочко актывізуе сваю дзейнасьць між уплывовых каталіцкіх дзеячоў іншых народаў, якія спрыялі беларусам. У 1920 г. ён зьвярнуўся з просьбаю да каноніка Юрыя Нар'яўскага, першага прадстаўніка Летувы пры Апостальскім Пасадзе, каб памятаў аб рэлігійных патрэбах беларусаў і атрымаў прыхільны адказ. У 1921 г. з падобнаю просьбаю зьвяртаўся да Я. Э. Ант. Стояна архіб. Праскага. Архібіскуп адказаў 21. XII. 1921 г. вельмі прыхільна.

У далейшым а. Уладыслаў галоўны цяжар свае працы пераносіць на пісьменьніцкую дзейнасьць. У 1923-24 гадох ён вёў ажыўленую перапіску аб беларускай справе з сябрам Інстытуту для Усх. Эўропы, ведамым вучоным а. Аўрэлім Пальміеры. Адказваючы на першы ліст а. Пальміеры пісаў: «Усё, што толькі змагу, зраблю для вашае справы... калі прышляце мне артыкул аб новых беларускіх кнігах, надрукую яго». У другім лісьце пісаў «Усё, што маеце з беларускае літаратуры, дужа пажадана. Паўторна прашу вас прыслаць мне артыкул аб вашых справах. Пастараюся надрукаваць у нашым пэрыёдыку. Статыстыка і геаграфічныя даныя аб Беларусі дужа пажаданыя». У трэцім лісьце з 1924 г. пісаў: «Мы былі-б вам дужа ўдзячныя за артыкул аб беларускай бібліяграфіі, або аб беларускім літаратурным руху». І а. Талочко стараецца здаволіць гэтыя просьбы, пасылаючы адпаведныя інфармацыі і літаратуру.

Навуковыя артыкулы а. Талочка, біліяграфічныя рэцэнзіі і кароткія зацемкі на розныя тэмы датычна Беларусі зьяўляліся ў шматлікіх часапісах. Сёньня немагчыма нават прыблізна улажыць сьпіс ягоных артыкулаў. Ужо перш прынагадна ўспаміналася аб ягоным супрацоўніцтве ў газэце «Homan», да гэтага трэба дадаць, што ня было ніводнага паважнейшага беларускага нацыянальнага часапісу, у якім-бы не зьяўляліся ягоныя артыкулы і зацемкі часам падпісаныя сапраўдным прозьвішчам, але найчасьцей пад псэўдонімам. Шмат было зацемкаў у «Калосьсі». У «Запісах Бел. Нав. Таварыства» Нр. 1 быў так-жа ягоны артыкул.

Ня менш чым у беларускіх ён публікаваў свае артыкулы і зацемкі ў украінскіх часапісах. Толькі ў «Analecta OSBM» ёсьць роўна 20 назоваў зацемкаў і рэцэнзіяў а. Талочка. Бадай што ня менш іх было ў паважным квартальніку «Богословія». Прынагодна зьяўляліся ягоныя артыкулы ў летувіскіх, польскіх, італьянскіх і нямецкіх часапісах.

Асабліва годнаю ўвагі была перапіска а. Уладыслава. Спаміж усіх беларускіх рэлігійных дзеячоў ён лічыўся за найбольш паінфармаванага чалавека. Так яно было ў сапраўднасьці і гэта дзякуючы ягонай ажыўленай перапісцы з усімі, хто толькі нейкім чынам займаўся беларускаю грамадзкаю працаю і ўвайходзіў у вялікі круг ягоных знаёмых. Калі заграніцаю і асабліва ў Рыме меліся сапраўдныя весткі аб палажэньні на Беларусі, дык гэта ў вялікай ступені было заслугаю а. Уладыслава.

І як ні дзіўна, ня гледзячы на сваю актыўную дзейнасьць, для шырокага беларускага грамадзянства а. Уладыслаў Талочко быў мала ведамы. Юбілей 30-ых угодкаў ягонае пісьменьніцкае дзейнасьці азначыла толькі «Хрысціянская Думка» і то ўсяго дробнаю зацемкаю. Затое няпрыяцелі беларускага народу, уласьціва іх верхаводы, вельмі ўважна сачылі за кожным крокам а. Уладыслава. Віленская Архідыяцэзія ня прызначыла яго да ніякае душпастырскае працы ў дыяцэзіі. У сьпісе духавенства ён фігураваў, як сьвятар «без заняцьця» нароўні з хворымі і эмэрытамі. Службы Божыя правіў звычайна ў Бэрнардынскім касьцеле і там-жа спавядаў, як запрошаны сьвятар.

Калі ў 1938 г. узьнялася хваля высяленьня з так званага прыгранічнага абшару сьведамых беларускіх дзеячоў, дык а. Талочку высялілі разам з а. Адамам Станкевічам і інж. Клімовічам загадам віленскага ваяводы 27 сьнежня 1938 г. З гэтае нагоды «Хрысьціянская думка» Нр. 2(186) з 1939 г. пісала: «Беларусы аб ксяндзу Уладыславу Талочку вельмі мала што чулі. А ён сярод нас даўно жыве і добра працуе. Кс. Талочко гэта тыповы і чыста беларускі характар. Гэта чалавек заходня-эўрапэйскае культуры. Жыцьцёвая лінія гэтага чалавека — каталіцкая. Праўда і справядлівасьць у гэтага ксяндза стаіць на першым месцы».

Пакінуўшы Вільню а. Талочко ня меў сталага мейсца пражываньня. Пры тым стан яго здароўя змушаў абмежаваць працу. Падзеі другое сусьветнае вайны, якія неўзабаве насьпелі, скарацілі дні выгнаньня з роднае Вільні — вярнуўся

ён туды ў 1939 г., але не на доўга. Уканцы 1942 г. разыйшлася па Вільні сумная вестка, што а. Уладыслаў Талочко ўжо ня жыве. Дзеля нястачы прэсы і ваеннае цэнзуры гэтая вестка ў іншых ваколіцах Беларусі сталася ведамаю толькі у наступным годзе.

Няўсыпушчая праца айца Уладыслава Талочка на карысьць беларускага народу ёсьць тою мурашкаваю працаю, якую па сапраўднаму можна ацаніць толькі тады, калі да яе прыглянуцца ўважна. Ён усё сваё жыцьцё прысьвяціў рэлігійнаму адраджэньню беларускага народу, які ён любіў безграничнаю хрысьціянскаю любоўю.

**а. Леў Гарошка**

---

# Істотныя азнакі беларускае культуры

Слова культура ўжываецца ў некалькі значэньнях, дзеля гэтага для дакладнасьці тэмы перш неабходна дакладна азначыць ягоны сэнс.

Культура — гэта лацінскае слова cultura, якое азначае апрацоўку зямлі, узгадаваньне, разьвіцьцё. Сёньня гэтае слова ўжываецца амаль ува ўсіх мовах сьвету і ўсюды мае шматлікія значэньні. Гаворыцца аб культуры чалавека, аб культурным узроўні жыцьця, аб культуры мовы, аб фізычнай культуры, аб культуры бактэрыяў і пад. У больш сьціслым значэньні словам культура азначаюцца ўсе вытвары людзкога духа на вышэйшай ступені разьвіцьця.

Вельмі часта слова культура мяшаецца з словам цывілізацыя. У некаторых краінах, як напрыклад Францыя гэтыя два словы атоесамліваюцца, але ў іншых краінах іх звычайна разрозьніваюць. Слова цывілізацыя паходзіць ад лацінскага слова civilis — грамадзкі, дзяржаўны, і азначае вышэйшую ступень грамадзкага жыцьця, перадусім прагрэс матэрыяльнае культуры. У беларускай мове звычайна гэтыя словы разрозьніваюцца.

Паколькі культура ёсьць вытварам людзкога духа, а людзкі дух мае свой пачатак ад Бога, дык найглыбейшая аснова культуры ёсьць аднолькавая для ўсяго людзтва — ёю ёсьць духовая дзейнасьць чалавека. З усіх жывых істотаў на зямлі толькі людзі ствараюць культуру, бо толькі яны маюць дробную творчую іскру ад Бога — разумную і несьмяротную душу.

У зьвязку з найглыбейшаю асноваю культуры вельмі характэрныя яе першыя праявы, гэта зварот людзкога духа да свае першакрыніцы, да Бога. Гісторыя культуры ўсіх народаў наагул і кожнага ў паасобку дае нязьліченыя доказы, што пачатак і разьвіцьцё культуры кожнага народу і ў тым ліку беларускага зьвязана з рэлігійным жыцьцём. Сучасны італьянскі філёзаф Шіякка кажа аб гэтым: «Сучасная культура павінна пераканацца, што няма культуры без мэтафізычнае асновы, як няма культуры бяз духу дабрадзейнасьці. Бяз веры ў трансцэндэнтную рэальнасьць (ясьней кажучы, бяз веры ў Бога) і без надзеі ў нашую несьмяротнасьць развальваюцца ўсякія прынцыпы маральнасьці і рэлігіі. Дзеля гэтага разьвязка сучаснага крызысу і сучаснае сьведамасьці знайходзіцца ў аднаўленьні хрысьціянска-каталіцкае мэтафізыкі, якая была заўсёды хрыбтом кожнае сапраўднае цывілізацыі, непахіснаю асноваю кожнага сапраўднага маральнага паняцьця жыцьця» (1).

Калі ў выніку нейкіх дачасных, дрэнна панятых, прычынаў падкопваюцца найглыбейшыя асновы культуры, яе рэлігійны элемэнт, тады пачынаюць у грамадзтве верхаводзіць прагнасьці, жарсьці і ўсякія вады, якія нямінуча вядуць грамадзтва да ўпадку. Найглыбейшыя карэньні росту і ўпадку народу заўсёды сягаюць да найглыбейшых асноваў духовага жыцьця. Трэба быць крайне засьлепленым матэрыялістам, каб ня выцягнуць навукі з агульнаведамага факту. Зярняці, схаванага ў зямлі, ня відаць, але яно адтуль прарастае і вырастае на аграмаднае дрэва. Так і духовае жыцьцё чалавека — яго на першы пагляд ня відаць матэрыяльнымі вачыма, але гэта яно родзіць думкі, якія вырастаюць у найбольшыя і найпрыгажэйшыя ўчынкі чалавека, у культурныя асягненьні. Іншы прыклад яшчэ больш прамаўляючы: Толькі на адпаведна апрацаванай глебе вырастаюць культурныя расьліны, падобна і ў душы людзкой, толькі тады, калі яна будзе апрацаваная цнотамі, успрыйме маральныя прынцыпы паводзін, станецца найбольш прыдатнаю для таго, каб на ёй узрасьлі прыгожыя кветкі высокае культуры.

Гэта былі агульныя заўвагі, якія адносяцца да кожнага народу, але так як акрамя агульналюдзкіх праяваў духовага жыцьця кожны народ і кожны чалавек мае сваеасаблівыя азнакі і сваеасаблівыя патрэбы, так сама і культура кожнага народу мае шмат толькі ёй уласьцівых азнакаў, адпаведных да яго характару, навакольнае прыроды і абставінаў жыцьця. Кожны народ творыць мэлёдыі сугучныя з біцьцём ягонага сэрца, якія шматгалосным рэхам лунаюць па родных абшарах; кожны народ творыць сваю мову, якая найлепш выказвае ягоныя думкі; кожны народ творыць сваё мастацтва, якое найбольш трапна вы-

---

1). **Michele Federico Sciacca, Il problema di Dio e della religione nella filosofia attuale. Morcelliana 1946, star. 338.**

казвае яго пачуцьці; кожны народ услаўляе Бога найбольш адпаведна да свайго характару і т. п.

Дойлід, пляную́чы будынак, абавязкава ўзгляднівае кліматычныя асаблівасьці краю і адпаведна да іх праектуе форму будынку і дабірае будаўнічы матэрыял. Ня інакш павінна быць і з усімі тымі, хто нейкім чынам займаецца творчаю працаю ў якой колечы галіне беларускае культуры. Тут яшчэ больш чым дзе неабходна пазнаць усе асаблівасьці характару беларускага народу і яго культуры. Да гэтага часу вельмі мала зроблена ў гэтай галіне; зьявілася ўсяго некалькі працаў, якія больш або менш блізка закранаюць гісторыю беларускае культуры (2), але і яны пераважна зьвяртаюць увагу толькі на матэрыяльную культуру. Нажаль гэта не адна ніва з беларускае гісторыі, якая яшчэ чакае сваіх работнікаў.

Прадмет гісторыі беларускае культуры лішне шырокі, каб ім займацца ў рамах часапіснага артыкулу і таму ў гэтым артыкуле зьвернем ўвагу толькі на некаторыя азнакі беларускае духовае культуры.

У беларускай народнай мудрасьці, у вуснай творчасьці, у народных рэлігійных абрадах, у бытавых звычаях і ў звычаёвым беларускім праве, калі іх глыбей прааналізаваць, можна знайсьці вельмі характэрную супольную рысу — глыбокі філязафічны зьмест і гэта ёсьць адна з істотных азнакаў беларускае духовае культуры.

Варта прыслухацца да беларускіх прыказкаў, каб пераканацца, што там ёсьць няімаверна глыбокая навука аб Богу, аб прычынах навакольных зьявішчаў і аб псыхалягічных перажываньнях чалавека, аб жыцьці наагул. Праўда, у іншых народаў можна пачуць падобныя прыказкі і афарызмы, але бадай што ніхто так часта не карыстаецца сваімі прыказкамі, як беларус. Уся вусная народная творчасьць гэта-ж нявычарпальнае багацьце народнае мудрасьці. Да таго ў кожнай вёсцы і мястэчку ёсьць нямала такіх, што аб іх кажуць «Бяз прыказкі і з лавы ня зваліцца».

---

2) Вось важнейшыя творы да пытаньня беларускае культуры:

**Dr. M. Antonovytsch, Kultur der Ostslaven: Ukrainer, Weissruthenen, Russen. Handbuch der Kulturgeschichte Nr. 72/73. Breslau 1941.**

А. Цьвікевіч, Западно-русізм. Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX вв. Менск 1929.

Ю. В. Готье, Очерк по истории материальной культуры Восточной Европы. Ленинград 1925.

История культуры древней Руси. Москва-Ленинград 1951. 2 томы.

Р. Максімовіч, Важнейшыя мамэнты культурных працэсаў на Беларусі. «Запісы БІНІМ» Нр. 6 і «Конадні» Нр. 3. 1955 г.

О Савич, Нариси з історії культурних рухів на Україні і Білій Руси в XVII-XVIII ст. Київ 1930.

У 1928 г. быў зьявіўся адзін нумар савецкага часапісу «Weissruthenische Kultur» нажаль у ім акрамя назову няма нічога аб сапраўднай беларускай культуры.

Мастацкая беларуская літаратура, не зважаючы на сваю маладосьць, так-жа мае нямала філязафічнае глыбіні. Не адзін гэрой апавяданьняў М. Гарэцкага ломіць сабе галаву над глыбокімі жыцьцёвымі праблемамі: «Адкуль усё і што яно?» Якуб Колас вуснамі Лабановіча ў «Палескай глушы» пытаецца свайго сябру «Скажы жы мне, братка Алесь, для чаго чалавек на сьвеце жыве?» А Янка Купала ў паэме «Сон на кургане» ідзе так далёка, што вандруе аж у сьвет таёмнасьцяў. Дзе ў іншай літаратуры так глыбока і адначасна так мастацку прыгожа даецца апраўданьне існаваньня песьні, як гэта зрабіў Максім Багдановіч у «Апокрыфе»? Не дарма гэтага перадчасна згасшага паэта назвалі паэтам-філёзафам, бо большасьць ягоных вершаў прысьвечаны паважным філязафічным пытаньням. Цяжка шукаць своеасаблівых беларускіх азнакаў у сучаснай паняволенай беларускай літаратуры, бо яна акрамя скалечанае беларускае мовы мала што мае больш беларускага.

Падобна і ў бытавых звычаях, калі іх толькі ўважна прадумаць, знайходзіцца падзівугодная глыбіня назіраньня. Часам гэтыя назіраньні выказваюцца старымі людзьмі у форме радаў, якія з часам праз іх незразуменьне ператвараюцца ў забобоны. З гэтага гледзішча вельмі цікавую ёсьць «Палеская лягенда», запісаная Старым Уласам, у якой бацька ўміраючы раіць сыну: «Калі ты ідзеш з сахою, з возам, з бараною, ці сяўнёю, не кажы ідучы з дому «Памажы Божа» нікому! А другое, знай, ці чуеш, як арэш, ці барануеш, ды дамоў будзеш адходзіць, абгарадзіць не зашкодзіць. І нарэшце, помні гэта, ці то восень вясна, лета ,каб круглым годам табе яда была з мёдам». Сын даслоўна ўспрыняў бацькаў наказ і з году ў год бяднеў ды наракаў на бацьку і на людзей. Аж аднойчы яму зьяўляецца якісь дзед і тлумачыць: «Сынку, робіш ты ня тое і на бацьку дарма брэшаш, а за гэта цяжка грэшыш. «Памажы Божа» не даваці — гэта значыць не заспаці і старацца, мой саколе, чым найраней выйсьці ў поле, дык ня ты дасі людзям, табе кожан даваць будзе. З гарадзьбой рэчы такія: урэжаш гонцы, другія, абжэнь сошкай, ці баронкай, абгародзіш баразёнкай. З мёдам то такая справа кожная салодка страва, зьясі смачна, мёд пачуеш, калі добра папрацуеш».

Такая азнака беларускае творчасьці сьведчыць аб глыбокай пытлівасьці розуму ствральнікаў народнае творчасьці і агулам народу, для якога яна прызначана. Аднак з гэтаю вельмі дадатнаю азнакаю беларускага характру і беларускае культуры йдзе ў пары другая азнака — супакой. Непаседа ня мае часу займацца глыбокімі разважаньнямі. Ужо не адзін дасьледнік беларускае гісторыі сьцьвердзіў факт. што беларусы лішне спакойны народ і гэтую азнаку ацанілі як

адмоўную. Тут ня мейсца разьбіраць, ці яна адмоўная, ці не, але ёсьць факт, што такая рыса належыць да характару беларуса і мае сваё адбіцьцё у беларускай культуры. Асабліва моцна сьледная гэтая азнака ў беларускай народнай музыцы, будаўніцтве і арнамэнтах — яны маюць упрост маестатычны супакой. Толькі беларускія народныя танцы маюць адменны характар — гэта бурапенныя фігуры поўныя імклівага жыцьцярадаснага тэмпэрамэнту. Але яны ёсьць вытварам перадусім моладзі і маюць на сабе таўро маладосьці.

Глыбокая пытлівасьць мае аграмадныя творчыя магчымасьці, аднак для іх разьвіцьця неабходная свабода. І вось у душы беларуса, не зважаючы на доўгавяковую паншчыну, на нацыянальнае паняволеньне, заўсёды аставалася любоў і імкненьне да свабоды. Трапна выказаў гэта галоўны гэрой паэмы «Новая зямля»: «Купіць зямлю, здабыць свой кут, каб з панскіх вызваліцца пут». Аб тым, якія аграмадныя здольнасьці крыюцца ў беларускай душы могуць сьведчыць тыя людзі, якія аддалі свае таленты нашым суседзям за час паняволеньня: Міцкевіч, Манюшко, Арэшчыха, Карловіч, Касьцюшко, Пільсудзкі і шмат іншых — палякам, а Глінка, Дастаеўскі, і цэлы рад навукоўцаў — расейцам. У сапраўнай свабодзе ў родным краю, яны маглі-б разьвіць свае таленты шмат больш і быць бязумоўна больш карыснымі для ўсяго людзтва.

Бытавыя беларускія традыцыі маюць яшчэ адну вельмі характэрную азнаку, яны ўнармоўваюць жыцьцё згодна з прыродным парадкам. У бытавых абрадах падчыркваецца Божая ўсюдыпрысутнасьць і ўсемагутнасьць. Таму ўсякую важнейшую працу беларус пачынае з Богам і кожнаму працуючаму выказвае пажаданьне адпаведна да роду занятку: «Памажы Божа!», «Прыспарай Божа!», «Радзі Божа!». Пачынаючы будаваць хату, на пляцу перш ставіцца крыж, а закончыўшы яе, у найбольш пачэсным мейсцы, на покуці, завешваюцца абразы сьвятых.

Адносіны да бліжніх і да акружаючае прыроды так-жа нармуюцца згодна з прыродным парадкам. На Беларусі няма звычаю абразаць дрэвы: «нашто іх калечыць? І згодна з гэтым правілам беларус ніколі не стараўся дэнацыяналізаваць іншых народаў, якія знайходзілі на Беларусі мейсца жыхарства. «Хочаш стацца такімі як мы, калі ласка, а ня хочаш, аставайся такім, як хочаш». Жыды, татары, караімы, расейцы-старавеpы чуліся між беларусаў лепш чым дзе і няраз потым за гэткую дабразычлівасьць адплочвалі крыўдамі.

Як у кожнай культуры, падобна і ў беларускай не абыйшлося бяз уплываў іншых культураў. Асабліва важным мамэнтам з гэтага гледзішча было прыняцьце хрысьціянства. Прыйшло яно на Беларусь з Бізантыі, але ў баўгарскім афармленьні і прынясло багатыя скарбы высокае бізантыйскае культуры. Пад уплывам хрысьціянства такія дзялянкі культуры, як; рэлігійна-духоўная, філязофія, будаўніцтва, выяўленчае мастацтва — атрымалі магутны жыватворчы штуршок, а да таго зьявілася зусім новая галіна культуры — пісьменства. Але ўвесь гэты ўспрыняты скарб хутка займеў беларускія асаблівасьці. У рэлігійным жыцьці асталіся шматлікія спрадвечныя беларускія абрады; філязофія зьмяшалася з беларускаю народнаю мудрасьцю; мураванае будаўніцтва атрымала беларускую арнамэнтыку, на свой лад разьмяркована нутраны прастор сьвятыняў і хутка вытварана зусім своеасаблівы стыль; выяўленчае бізантыйское мастацтва злагодзіла строгія іконапісныя каноны, а пісьменства ўжо ў XIII ст. мела нямала самастойных твораў.

З гледзішча ўплываў іншых культураў вельмі важнаю датаю ў гісторыі беларускае культуры быў XIII в. Тады татарская навала, заняўшы Расею і часьць Украіны, парвала лучнасьць Беларусі з Бізантыяю. У тым часе наладжваюцца сувязі Беларусі з Заходняю Эўропай і пачынаецца заходняэўрапэйскі ўплыў на беларускую духовую і матэрыяльную культуру. І гэты ўплыў яшчэ больш як бізантыйскі на Беларусі прыймае беларускае аблічча. Адною з найбольш істотных азнакаў беларускае культуры з часу заходняэўрапэйскага ўплыву ёсьць сынтэза. На Беларусі плянуецца і даконваецца аб'еднаньне Праваслаўнае і Каталіцкае Цэркваў у форме Берасьцейскае Вуніі; беларускія прававеды рэдагуюць славуты Літоўскі Статут, у якім знайшлі адлюстраваньне прынцыпы і рымскага і мяйсцовага беларускага права; беларускі навуковец рэфармуе царкоўна-славянскі альфабэт на ўзор лацінскага альфабэту, згодна з тагачаснымі беларускімі формамі пісьма і гэты новы альфабэт — гражданка, праз Маскоўшчыну прыймаецца шырока ў некаторых славянскіх краінах.

Пэрыяд паняволеньня Беларусі стаўся часам паважнага застою і нават заняпаду ў шматлікіх дзялянках беларускае культуры. Сумны ў сабе гэты факт, але ён ня сьведчыць аб творчай кволасьці беларускага духа, бо народы нават з найбольш творчым патэнцыялам у паняволеньні замаўкаюць дзеля тае простае прычыны, што культура «ёсьць творам ня толькі духа, але і свабоды» (3).

---

3) Jaques Maritain, Religion et culture. Paris 1946, star. 12.

---

**Найгоршы вораг для народу гэта ня той, што звонку нападае і руйнуе матэрыяльныя здабыткі, але той, што знутра раскладае жыцьцё народу — гэта бязбожніцтва, матэрыялізм і немаральнасьць.**

Цяпер на Беларусі адбываецца вельмі прыкрае зьявішча накідваньня чужое культуры і яшчэ горш — накідваньне сьветагляду, які працівіцца найглыбейшым жаданьням людзкога духа. Але якія-б насільствы не тварыліся над беларускім народам, яны астануцца толькі прамінаючым зьявішчам. Бо ўсё тое, што не адказвае характару беларускага народу, патрэбам яго душы, пры першай-жа нагодзе будзе стрэсена, як старыя рызманы. Дзеля гэтага ня шкода ніякіх высілкаў для асягненьне свабоды, бо толькі ў свабодных умовах беларускі народ зможа разьвіць належна сваю культуру згодна з найглыбейшымі жаданьнямі свае душы для свае сьветлае будучыні.

**а. Л. Гарошка**

# Тыдзень Студыяў Б.А.К.А. „Рунь"

Ужо пяты раз Беларускае Акадэмічнае Каталіцкае Аб'еднаньне змагло наладзіць між 10-16 жніўня свой чарговы Тыдзень Студыяў у Лёндане. Хто з беларусаў сочыць за рэлігіійным і інтэлектуалным жыцьцём нашае эміграцыі, той паволі прывыкае, што такія Тыдні ёсьць быццам чымсьці самазразумелым, бо-ж адбываюцца рэгулярна штогод. З гэтага можна толькі цешыцца, што сябры «Руні», раскіданыя па ўсіх краінах вольнага сьвету і пераважна занятыя, а часам і пераладаваныя сваею працаю, усё-ж знайходзяць час і магчымасьць, каб удзельначаць у Тыдні. Але гэта-ж накладае на галоўную ўправу «Руні» адказны абавязак адпаведна выкарыстаць прызначаны для студыяў час. Сёлетні Тыдзень Студыяў мог-бы быць выкарыстаны больш інтэнзыўна. У параўнаньні да мінулых гадоў, было значна менш дакладаў — усяго чатыры: Д. Анісько «Зарніца маральна — рэлігійнага адраджэньня сьвету», а. Л. Гарошка «Рэлігійная талеранцыя на Беларусі» і другі «Прычыны палянізацыі на Беларусі», Т. Мазура «Хрысьціянскія сьвятыні на Беларусі». Да таго а. Ул. Тарасэвіч праз тры вечары дзяліўся сваімі ўражэньняні з падарожжа па Палестыне, Грэцыі, Эгіпце і Турэччыне, суправаджаючы свае ўспаміны прыгожымі каляровымі прасьвятленьнямі.

Затое ў адмену ад папярэдніх Тыдняў Студыяў сёлета вельмі ўдала былі выкарыстаны вольныя ад дакладаў вечары. Адзін быў прысьвечаны беларускай літаратуры. Напачатку а. Л. Гарошка расказаў аб ролі беларускае літаратуры ў адраджэнскім руху, а далей пайшлі чытаньні кароткіх апавяданьняў, дэклямацыі вершаў паважных і гумарыстычных; асаблавае захапленьне выклікала дэклямацыя а. Францука малаведамага вершу Я. Быліны, а закончылася сьпевамі і гульнямі. Удзельнічалі ў ім так-жа госьці з Ноттінгам.

Доўга будзе памятным вечар адведзінаў украінцаў, якія мелі ў тым-жа часе свой кангрэс «Обновы» ў Лёндане. Больш 30-ці ўдзельнікаў кангрэсу разам з двумя біскупамі Я. Э. Іванам Бучкам і Я. Э. Максімам Гэрманюком з Канады прыйшлі ў аседак Беларускае Каталіцкае Місіі. У гэты вечар капліца і саля дому айцоў Марыянаў былі замалымі, каб умясьціць усіх і першы раз у сваіх мурох гасьцілі трох біскупаў адначасна — акрамя двох вышэй названых быў прысутны наш Апостальскі Візітатар Я. Э. Балеслаў



**Група ўдзельнікаў Тыдня Студыяў.**

Слосканс. Прамовы украінскія і беларускія чаргаваліся ўзаемна: наступна таварыскія сьпевы, дэклямацыі і скромнае але ўдалае прыняцце вытварылі такі мілы брацкі настрой, які не забываецца ніколі. На наступны вечар беларусы былі госьцямі ў украінцаў. Выслухалі зьместоўны даклад аб раньнехрысьціянскім мастацтве на Украіне, удзельнічалі ў прыняцці і ў таварыскіх выступленьнях, якія зацягнуліся да позьнага вечара.

Як гэта ўжо ўвайшло ў традыцыю Тыдняў Студыяў, адзін дзень — пятніца — быў прызначаны для рэкалекцыяў. Кіраваў імі Я. Э. Балеслаў Слосканс. І быў гэта дзень вельмі плённы, бо паважаны кіраўнік патрапіў даць удзельнікам багатую духовую пажыву.

Адразу па сканчэньні Тыдня Студыяў ад імя «Руні» пяцёх дэлегатаў выехалі ў Ноттінгам на міжнародны Кангрэс «Пакс Романа». Аб гэтым глядзі ў хроніцы.

**Удзельнік**

---

**Людзі маюць магчымасьць стаць або леваруч, або праваруч крыжа, але з каторага небудь боку яны такі стаць мусяць справа, ці зьлева, хочуць гэтага, ці ня хочуць.**

# У віры розных плыняў

(Працяг 7-ы да апавяданьня «**Няведамыя шляхі**»)

На гімназійных вучняў стараліся займець свой уплыў розныя яўныя і прыхаваныя дзеячы з розных асяродзьдзяў і кірункаў. Іхняя дзейнасьць звычайна вялася ціха, няўпрыцям для самых вучняў, але калі-не-калі яна такі вылазіла, як шыла з мяшка.

Ад некаторага часу Андрэй зьвярнуў увагу на гурток сяброў з старэйшых клясаў, якія часам трымаліся замкнёна, а іншым разам заводзілі розныя дыступы з іншымі вучнямі на грамадзкія тэмы, выхвальваючы пры гэтым Маркса і Савецкую Беларусь. Тактыку гэтага гуртка Андрэй пазнаў потым, калі з ім пазнаёміўся бліжэй.

Заданьні атрымоўваў той гурток няма ведама адкуль. Але атрымаўшы нейкае заданьне, усе сябры пачыналі дзейнічаць. Тады звычайна яны пачыналі ад вучняў, якія чым колечы выдзяляліся спаміж іншых. Між сябрамі гуртка найбольш увіхаўся Янка Небарака, дзякуючы сваёй весялосьці ён умеў падыйсьці да кожнага, то жартам, то нейкаю навінаю, а то і звычайнаю дробнаю просьбаю. Калі Янка ўжо з нейкім вёў паважную гутарку, да іх падходзіў Хведар Пераглял і заводзілі гутарку на вызначаную тэму.

Андрэй пазнаў дакладней гурток і ягоную дзейнасьць прыпадкам. Аднойчы вечарам у бурсе, ўпіліўшысе у нейкую газэту, Андрэй і не заўважыў, як да яго прысеў Янка Небарака.

— Што цікавага чуваць?

— А во паглядзі! — абыякава адказаў Андрэй, паказвачы на газэту.

— Я гэта ўжо бачыў, але вось у мяне ёсьць газэтка, якое ты напэўна ня бачыў.

— Пакажы.

— Тут нельга — Таямнічым голасам адказаў Янка. — Вось ідзем на магільнік, там пачытаем разам.

Як-жа было не згадзіцца пачытаць нелегальную беларускую газэту. І Андрэй пакрысе зышоўся бліжэй з тым гуртком. Аднойчы Янка і Хведар запрасілі яго на зборку, якая адбывалася ў лесе; там пазнаў усіх сяброў гуртка. Падабалася Андрэю іхняя прадпрыймальнасьць, дзелавітасьць і перадусім ахвярнасьць. Так у гуртку яго пачалі лічыць за свайго і аднойчы запрасілі слухаць радыёаўдыцыі з Менску. Андрэй ахвотна згадзіўся.

Па вячэры ён у таварыстве Янкі Небаракі і Міколы Берага сьпяшаліся на край гораду да якогась шаўца. Відаць, што ў шаўца Янка і Мікола былі частымі госьцямі, бо як толькі яны там зьявіліся, дык шавец прывітаў іх як старых знаёмых, пасяброўску пазнаёміўся з Андрэем і адразу сам пайшоў у бакоўку, пакідаючы гімназістам свой радыёапарат.

Янка як бачыш знайшоў менскія радыёхвалі і хлопцы з вялікаю радасьцю пачулі з апарату родную мову. Яны быццам замяніліся ў слух, каб не апусьціць ніводнага слова. Спікер канчаў перадачу аб выкананьні нейкага пляну і сыпаў працэнтамі: «...у Менскім раёне плян перавыканана на 120%, фабрыка імені Тэльмана перавыканала плян на 128%... завод імені Кагановіча перавыканаў плян на 117%...».

— Вось дзе праца йдзе. — Ня вытрымаў, каб не сказаць свайго слова Янка Небарака.

— Але чаму ён ня кажа, да якое сумы процанты адносяцца? — Заўважыў Андрэй.

— Што-ж ты не разумееш, што гэта можа быць дзяржаўная тайна?

— Ну якая гэта тайна, колькі зрабілі шкарпэткаў і сфэтраў?! — Засьмяяўся Андрэй.

— Чаму якая? — загарачыўся Янка — гэта-ж можа сьведчыць аб магутнасьці прадукцыі!

— Дык што, па твойму найлепш агулам аставіць людзей галодных і голых, каб ня выявіць «магутнасьці» прадукцыі — павысіў голас Андрэй.

— Сьціхніце вы і не перашкаджайце слухаць — перабіў іх Мікола Берег, бо якраз пачыналася нейкая новая аўдыцыя. Але і не слухаць не давялося доўга. Сьпікер пачаў дыктаваць для вывучэньння песьню. Хлопцы моцна зьдзівіліся, песьня была расейская: «... и по винтику, по кирпичку разобрали кирпичный завод...»

Андрэй зноў ня выцерпеў:

— Ліха ведае што і якое тут робіцца: адзіная беларуская радыёстанцыя, прызначаная для беларусаў і тая на расейскую мову пераходзіць.

— Ведаеш, там няма нацыянальнага шавінізму, там для ўсіх ёсьць поўная свабода. — Спрабаваў знайсьці нейкае выясьненьне Янка.

— Якое там няма?! ці-ж ты ня бачыш — Андрэй паказаў пальцам на радыёапарат — што тут вылазіць найгоршы шавінізм з сваею кудлатаю галавою, толькі што гэта расейскі шавінізм і ты яго чамусьці ня хочаш назваць па імені.

— Ты ўжо Андрэй залішне. — Ня гледзячы нікому ў вочы гаварыў Мікола, а Янка сядзеў унурыўшы голаву.

— Якое залішне!? — нецярпліваўся Андрэй — расейцы маюць там ліха ведае колькі радыёстанцыяў і яшчэ ім замала. Дазволілі беларусам наладзіць адну адзіную радыёстанцыю і тую цяпер упрагаюць праводзіць русыфікацыю, ці-ж гэта ня ёсьць ненажорны імпэрыялізм, ці-ж гэта

ня ёсьць самы грубы шавінізм, ці-ж гэта ня крыўда?!

Запанавала няпрыемная цішыня. Мікола выключыў радыёапарат і хлопцы моўчкі пайшлі дамоў. Ад таго часу Андрея больш у гурток не запрашалі.

Вясною некалькі тыдняў перад першым траўнем Андрэй убачыў на рынку Янку Небараку ў таварыстве нейкага незнаёмага чалавека. Потым сябры гуртка нешта перашэптваліся між сабою і ў гімназіі спачатку паціху, а потым усё галасьней пачалася агітацыя за «належнае адсьвяткаваньне міжнароднага работніцкага сьвята».

Вечарамі ў бурсе было вельмі голасна. Толькі цяпер чамусьці найбольш гаварылі слабейшыя вучні з восьмае клясы, якім пагражаў правал на матуральным экзаміне: Алесь Шуйко і Якім Недагледаў. Як толькі канчалася вячэра, бурсакі аставаліся ў сталоўцы і, разышоўшыся на некалькі грамадаў, пачыналі дыскутаваць Вось Алесь Шуйко, стоячы каля печы аратарскім голасам пераконваў якогась вучня з сёмае клясы:

— Чаму на беларусаў усе насядаюць? Бо легкаважаць нашую сілу. Вось чаму! А каб мы ўсе выступілі салідарна, паказалі нашу рашучасьць, дык тады, нябось, з намі пачалі-б лічыцца...

— А што будзе, як у адказ на выступ возьмуць ды гімназію зачыняць? — Пачуўся голас з грамады.

— Ты яшчэ спытайся: а што будзе як у паліцыю паклічуць, як арыштуюць? Хто такія пытаньні ставіць, той напярод рыхтуе сабе няўдачу, а мы мусім выступіць салідарна ўсе як адзін чалавек...

— За што гімназію могуць зачыняць, калі на ўсім сьвеце працоўныя сьвяткуюць першага траўня і з гэтым ужо ўсе лічацца. — Падхопліваў іншы сяміклясьнік, блізкі сябра Янкі Небаракі.

Андрэй ясна бачыў дэмагогію сяброў таёмнага гуртка, але спачатку ніяк ня мог уцяміць, чаго яны ўласьціва хочуць ад гэтага «сьвяткаваньня», дык адыйшоўшыся ад грамады стаў адзін каля дзьвярэй ды прыслухоўваўся здалёк да спрэчак і гутарак. Але нядоўга стаяў адзін. Да яго падыйшоў Якім Недагледаў.

— Ты чаго задумаўся?

— Ды вось мне здаецца, што гэтая ўся агітацыя вельмі не на часе.

— Чаму не на часе?

— Якраз трэба рыхтавацца да канца школьнага году, а нам да матуральнага экзаміну і тут раптам пачынаюць рыхтаваць ліха ведае што бяз ніякае карысьці ані для нас, ані для нашае агульнае справы.

— У іншых беларускіх гімназіях не такое рабілася.

— А колькі-ж тых гімназіяў цяпер асталося?

— Але якраз тыя і асталіся, у якіх вялася актыўная работа.

— Каму ты, Якім, гаворыш?! Сам-жа добра ведаеш, што пазакрывалі тыя беларускія гімназіі яшчэ да таго, як разпачалася вось гэткая як тут работа. Толькі вось ты скажы, як кончылі тыя, што як ты кажаш, «не такое рабілі»?

— Кончылі ня кепска.

— Як гэта ня кепска? Што-ж добрае ў тым, калі з гімназіяў выкідаюць больш актыўных вучняў, а іншых тэрарызуюць? З гэтага можа быць карысьць толькі для нашых ворагаў.

— Зусім ня так, бо тыя, павыдіданыя, амаль усе вучацца ў Савецкай Беларусі і пабольшваюць рады беларускае інтэлігэнцыі.

Андрэю адразу стала ясна, якую мэту маюць агітатары.

— Дык гэта вы, баючыся, што не здасьце матуры, рыхтуеце сабе дарогу праз мяжу, каб стаўшыся вечнымі недавукамі, крычаць аб сваёй ахвярнасьці, ідэйнасьці! Добрая вашая ідэйнасьць, няма што казаць. А ці падумалі вы, што будзе з тымі, якіх праз вас могуць павыкідаць з гімназіі і якія нікуды ня змогуць пайсьці далей і тых, якім агулам загародзяць дарогу да вышэйшае і сярэдняе асьветы?!

— Малодшых ніхто чапаць ня будзе. — Нібы сам да сябе казаў Якім.

— Адкуль ты маеш гэткую пэўнасьць?...

Стрымаць агітацыі было немагчыма дзеля тае простае прычыны, што ня было ніякае вучнёўскае арганізацыі, ані другога гуртка, які-б выступіў супраць таго прыхаванага гуртка, які вёў агітацыю. Настаўнікі-ж стаялі здалёк ад вучняў і нават ня ведалі аб тым, што за неспадзеванка рыхтуецца для іх.

Першага траўня ў дырэкцыі гімназіі запанавала прыгнятаючая няпэўнасьць. Вучні, сабраўшыся на карыдоры, заявілі, што ладзяць сьвята міжнароднага дня працы і выйшлі з гімназіі. Паліцыя аб гэтым даведалася адразу і якісьці чалавек паклікаў дырэктара гімназіі ў ваяводзтва. Каля гімназіі і асабліва каля мужчынскае бурсы часта прайходзілі нейкія асобы з таёмным выглядам. Адразу пачаліся дапросы. «Сьвяткаваньне» першага траўня кончылася тым, што выкінена з гімназіі найбольш актыўных агітатараў Алеся Шуйку, Якіма Недагляда і некалькі вучняў з малодшых клясаў. Дырэктар стараўся захаваць існаваньне гімназіі і мець якнайменш ахвяраў.

Пасьля гэтага выпадку павеяў на гімназістаў узмоцнены вецер з іншага боку. Некалькі разоў беларускіх гімназістаў запрашалі паслухаць рэфэратаў у польскай гімназіі і там заахвочвалі да ўдзелу ў дыскусіі. Якраз у тым часе, але з іншых прычынаў недалёка ад рынку быў адчынены польскі клюб з газэтамі, радыё, буфэтам — і туды

пачалі рознымі способамі прынаджваць беларускіх гімназістаў. Словам з некалькі бакоў растаўляліся пасткі, каб уцягнуць вучняў на супрацоўніцтва з чужымі і варожымі сіламі. А тых, што стараліся абмінуць усякія пасткі намагаліся прыгнобіць рознымі спосабамі і заламаць духова.

Перед матуральнымі экзамінамі васьміклясьнікам далі тыдзень вольнага часу. Усе скарысталі з гэтага, каб заглянуць дамоў. Андрэй, узяўшы з сабою падручнікі, пехатою накіраваўся ў родныя Стараброды. Толькі ён выйшаў з Наваградку, як пачуў за сабою тарахкаценьне калёсаў. Азірнуўся і зьдзівіўся, убачыўшы на возе свайго сябру Аркадзя Краўцэвіча з ягоным бацькам, якіх яшчэ ня больш як паўгадзіны таму бачыў у бурсе.

— Сядай, браце, хутчэй на воз, — крычаў здалёк аркадзяў бацька.

— Дык вашая-ж дарога па Сьвяцілавіцкай вуліцы йдзе, — казаў Андрэй, прымошчваючыся на цапку.

— А мы вось хочам па дарозе некалькі інтарэсаў зрабіць і пусьціліся ў невялікі аб'езд.

Стары Краўцэвіч быў калісь настаўнікам, а з прыходам польскае ўлады атрымаў невялікую эмэрытуру і заняўся сваею малою гаспадаркаю. Слова па слову і гутарка перайшла да нядаўных падзеяў.

— Налягаюць на нас, дзядзька, з усіх бакоў гаварыў паважным тонам Андрэй — адусюль выцягваюць рукі, каб прыбраць нас да сябе і ня відаць нідзе ратунку.

— Праўда, Андрэй, што і казаць, горкая праўда. Адусюль выцягваюць да нас заграбушчыя рукі, зераць на нас завідушчыя вочы, але вось што я вам скажу, мае вы хлопцы, нас не зьядуць і не праглынуць. Беларускі народ хоць і здаецца сяму-таму слабым але ён не слабы. Глядзеце, нас не зламалі ніякія навальніцы. Адыйшло ад нас магнацтва; ну адыйшло туды яму і дарога; забралі ў нас шмат багацьцяў, няма ведама колькі зрабавалі, але душы народнае яшчэ не патрапілі паняволіць і мы вось жывём і будзем жыць. О, наш народ жывушчы, усё вытрымае, а такі свайго некалі дапне!...

Гутарка старога Краўцэвіча пераходзіла ад спакойнага тону да натхнёнае прамовы. Пасівеўшая барада, ажыўленыя вочы старога прыкоўвалі ўвагу Андрэя так, што ён і не аглядзеўся, як праехалі два кілямэтры і трэба было злазіць з возу, бо канчаўся аб'езд Краўцэвічаў. Далей Андрэй пайшоў адзін і думаў аб нядаўна пачутым. Гасьцінец быў пусты і яму ніхто не перабіваў думкі. Сумныя і радасныя настроі чаргаваліся быццам тыя кілямэтровыя слупы на гасьцінцы.

З кожным кілямэтрам дарога станавілася цяжэйшаю, бурсацкае недаяданьне давала аб сабе знаць. Андрэй усё часьцей і часьцей аглядаўся, ці ня зьявіцца якая падвода, каб крыху пад'ехаць. Даходзячы да калёніі асаднікаў ён убачыў як з касавухі паказалася худая каняка, лёдва цягнучы воз, на якім сядзела кабета ў пажылым веку з юнаком гадоў дванаццаці. Андрэй прысьпешыў крок і хутка параўняўся з возам.

— Цётка, ці можна з вамі крыху пад'ехаць?

— Цо?! Нема жаднэго под'ехаць!...

Гэта была ўдава аднаго з асаднікаў. Яна і слухаць не хацела, каб падвезьці «якегось хама». Андрэй, пачуўшы адмову, але ня маючы чаго іншага рабіць, ішоў побач і спакойна гаварыў:

— Вы яшчэ ня ведаеце, што вас чакае ў будучыні; хто ведае, можа нават і заўтра вам прыдзецца прасіць помачы ў тых людзей, якіх вы сёньня пагардліва называеце хамамі. Не забывайцеся так-жа, што вы маці і ня ведаеце, што чакае ў жыцьці вашага сына. Адкуль вы ведаеце, якое помачы трэба будзе яму ад іншых...

Асадніčыха з усіх сілаў пачала сьцёбаць каня, каб уцячы ад няпрыемнага адрэявага прараканьня.

Не прайшоў Андрэй пасьля гэтага і кілёмэтру, як пачуў моцны тупат за сабою. Гэтым разам гнаўся ў лехцы на маладой кабыліцы юнак, амаль ягоны равесьнік і зраўняўшыся з Андрэем, моцна падцяў лейцы.

— Куды Бог нясе? — крычаў юнак.

— А вось у кірунку Замчышчаў.

— Дык валяйся, браце, у воз, кавалак дарогі скароцім.

— Дзякую табе, бо я такі крыху падбіўся. Аж з Наваградку пешкі. Ужо нават прасіўся вонь у тае кабеты, дык дзе там.

— О, гэта ведзьма не кабета. Я іх тут усіх ведаю. Але мы яе зараз пакінем з-заду.

І сапраўды, як бачыш вазы зраўняліся. Асадніčыха аглянулася і Андрэй цяпер не паскупіўся з словамі, каб «аддзякаваць за гасьціннасьць». Юнак, відаць, з насалодаю слухаў, як ягоны суродзіч прабіраў прыблуду і дзеля гэтага ўмысна стрымоваў кабыліцу і вазы іх нейкі час ехалі поруч. Асадніčыха была спрабавала агрызнуцца але ня могучы знайсьці ніякага апраўданьня для сябе, пачала страшыць паліцыяю. Юнак аглянуўся навокал, тузнуў лейцамі і кабыліца віхрам паімчалася ўпярод, пакідаючы далёка за сабою асадніčыху.

— Але-ж ты ёй насыпаў — заціраючы з задаваленьня рукі, гаварыў юнак — вось добра насаліў. Хай ведае гэтая брыда, што да пары збан воду носішь і што наш брат, як што да чаго прыйдзе, дык патрапіць так сказаць і прыказаць, што аж мошашна стане. Вось гэта дык добра.

— Здаецца, што яшчэ і ў паліцыі прыдзецца пагаварыць. — Заўважыў Андрэй.

— Ну, ведаеш, лепш з тутэйшаю паліцыяю

не спатыкацца, ды няма патрэбы. Яна-ж ня ўсьпее данесьці. Я цябе як бачыш давязу да мястэчка і пакуль яна на сваёй падле туды даедзе, дык ты будзеш ужо далёка. — Хлапец аглянуўся і галасна засьмяяўся. — Глядзі як лупцуе сваю шкапу. Гатова косьці пагубляць па дарозе. Мусіць твае словы ўзялі яе за самае жывое места і нанэўна ўжо цяпер ня будзе так нос задзіраць высока як перш. Вось, браце аж неяк весялей на сэрцы зрабілася, каб гэта больш такіх як ты...

Разьвітваючыся з спадарожным юнаком, Андрэй адчуў надзвычайную бадзёрасьць.

— Сапраўды, у нашам народзе ёсьць нявычарпальныя здаровыя сілы — думаў ён — і якое можа быць прыгожае жыцьцё, калі-б іх можна было свабодна разьвіваць. Маючы такія духовныя скарбы, нельга лішне сумаваць, перажываючы цяперашнія цяжкасьці. З імі ўсе віры абмінём і ўсе падводныя плыні пераможам.

**А. Жменя**

---

# Змарнаваныя скарбы

Ёсьць старыя людзі, ад якіх можна даведацца шмат чаго павучальнага. Мне і сёньня як жывы стаіць перад вачыма дзед Базыль. Якая гэта была скарбніца народнае мудрасьці! Не гаваркі ён быў чалавек, але калі заагаварыў, дык было што паслухаць. Аднойчы ён вялікую навуку даў моладзі. Было гэта вось як.

На выгане каля вёскі, (ўсё роўна, як яна называлася) рос аграмадны куст асоту, крапівы і шчаўку. З году ў год куст разрастаўся і ўжо займаў даволі вялікую плошчу. Аднойчы раніцаю да гэтага куста прыйшоў з касою дзед Базыль і нічога нікому ня кажучы, пачаў заўзята касіць тое пустазельле. Пастушкі былі як бачыш каля дзеда і з цікавасьцю і нават з насьмешкаю пыталіся:

— Дзеду, нашто вы косіце гэты асот?

— Каб вам языкі ня было чым калоць. — Адказаў, не адрываючыся ад працы Базыль і яшчэ больш заўзята налёг на касу.

Хутка да куста пад'ехаў базылёў унук і пачаў сахаром наладоваць на калясьнік сочнае пустазельле ды вазіць яго на папар. А там ужо базылёў сын чакаў з плугам. І разора за разораю напаўнялася залёнаю масаю, быццам на папары думалі бульбу садзіць. За якіх дзьве гадзіны куста як і ня было, толькі пакоша чорнаю плямаю вырозьнівалася на выгане. Праз які месяц пустазельле зноў адрасло і дзед Базыль зноў зьявіўся каля яго з касою і ўгнаіў другі кусок папару. Гэтым разам пастухі з павагаю глядзелі на старога, як ён размахваў касою і дзівіўся, што цяпер пакоша была ўжо зялёнаю — між бадыльля пустазельля выразаўся сочны мурог.

Калі дзед Базыль канчаў касіць, каля яго сабраўся вялікі гурт ратазеяў, між якімі былі ня толькі пастушкі, а нават і дарослыя дзяцюкі. Дзед выцер касу лісьцем лопуху і пачаў прыкурваць люльку, а тымчасам на пакошу кінуліся каровы, прагна скубучы малады мурог. Стары ўсьміхнуўся:

— Вось вам, жэўжыкі, пашы прыбавілася, ды яшчэ якое пашы! А мне на цэлы верацень тых пяскоў, што іх вецер араў і баранаваў, цяпер гаоў сем гною вазіць ня трэба будзе. Вось так у жыцьці шмат дзе марнуецца Божы дар праз наш недагляд, або праз гультайства.

Тут адзін з старэйшых дзяцюкоў заўважыў:

— Які гэта Божы дар, асот ды крапіва!

— Блазен ты з сваім асотам і крапівою. Вось налета паглядзіш, якое на ім вырасьце жыта і які з яго будзе смачны хлеб...

Завязалася цікавая «спрэчка» між стырым і дзяцюкамі. Дзед Базыль так разгаварыўся, што нават аб люльцы забыўся.

— Вялікія скарбы марнуюць людзі, топчуць нагамі няма ведама якое багацьце, а самі пажабрацку выцягваюць рукі да іншых, каб вымаліць які грош. Бог у сьвеце ўсюды рассыпаў нязьмерныя багацьці, але засьлепленыя людзі іх ня хочуць бачыць. Уганяюцца за тым, што блішчыць, за волатам, за дарагімі каменьнямі, а гэта багацьцё такое, што сёньня ёсьць, а заўтра яго няма. Праўдзівае багацьце ў душы чалака і Бог пасылае ўсім нагоду назьбіраць яго поўна. Каб вы ведалі, якое багацьце можна назьбіраць у душы і колькі яго марнуецца праз нядбаластва, дык-бы зжахнуліся. Вось прыкладна пашукайце чалавека, які ня меў-бы нейкага цярпеньня — ня знойдзеш такога. А калі ты цярпіш і свой боль і свае сьлёзы ахвяроўваеш Богу, дык гэта-ж зьбіраюцца цэлыя горы найдаражэйшых скарбаў, за якія Бог плаціць вечным шчасьцем у небе. Бог асот і крапіву ўмее замяніць у пахкі хлеб, а цярпеньне — у нябесны скарб. І каб Вы ведалі, які вялікі можа быць той скарб. А хто толькі войкае і наракае, калі цярпіць, дык нічога ня мае, усё марнуе...

Прызнаюся, што я, слухаючы старога Базыля, мала што тады разумеў і мае сябры падросткі таксама, але ягоныя словы запалі глыбока ў памяць. Потым у жыцьці прыходзілася часта іх успамінаць, разважаць і падзіўляць іхнюю глыбокую праўдзівасьць. Сапраўды, Бог пасылае кожнаму нязьлічаныя нагоды назьбірань неімаверна вялікія скарбы і дачасныя і вечныя, але людзі няўважна адносяцца да тых нагодаў. Калі прыходзіць якое цярпеньне, а каму яно ня пры-

ходзіць, дык мала хто яго ўспрыймае як нагоду заслужыць перад Богам нагароду. Між тым хто з хрысьціянскаю пакораю нясе дачасны крыж цярпеньня і ахвяроўвае яго за збаўленьне свае душы, за збаўленьне душы нашых бліжніх і за вызваленьне нашае бацькаўшчыны Беларусі, дык можа сабраць такія скарбы, такое багацьце, што іх агулам дачаснымі меркамі нельга азначыць, але за іх Бог узагародзіць лепшаю будучыняю ў дачасным жыцьці і вечным шчасьцем у будучым.

*Т. Малько.*




### МІЖНАРОДНЫ ЭЎХАРЫСТЫЧНЫ КАНГРЭС

У сталіцы Бразіліі Рыо дэ Жанэйро між 17-25 ліпеня адбыўся 36-ты міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс з удзелам 2-х патрыярхаў, 19 кардыналаў, каля 100 архібіскупаў і біскупаў, некалькі тысяч сьвятароў і больш мільёна вернікаў з Бразіліі і з усяго вольнага сьвету. Надзвычайна велічныя ўрачыстасьці на чэсьць Эўхарыстычнага Хрыста маглі ўзрушыць нават найбольш чорствыя душы і ажывіць у іх імкненье да Бога. На Кангрэсе можна было бачыць сапраўднае адзінства і паўсюднасьць Каталіцкае Царквы. Там удзельнічалі прадстаўнікі амаль ад усіх народаў, усіх грамадзкіх клясаў і ўсіх прафэсіяў. Ня былі забытыя і вернікі з-за зялезнае заслоны; у намераньні цярпячае Царквы была заграніізаваная спэцыяльная маніфэстацыя. Уканцы да ўдзельнікаў прамаўляў праз радыё Сьвяцейшы Айцец Пій XII.

Агульным дабром для людзтва. «Гэта выклікае неспакой ня толькі дзеля таго, што яна ставіць пад паважную небясьпеку існаваньне чалавека, але так-жа і дзеля сьцьверджаньня факту, што яна ня здольная спыніць духовага адчужэньня, якое дзеліць між сабою народы і кантынэнты. Каталіцкая Царква сьведамая таго, што мае рэлігійныя і маральныя сілы для аб'еднаньня. Адносна навукі і мадэрнае тэхнікі Царква ня ставіцца апазіцыйна, але толькі як супрацьвага і ўраўнаважваючы дзейнік. Гэткім чынам у эпоху, калі трыумфуе навука і тэхніка, яна можа выканаць сваё заданьне так-жа добра, як і ў мінулых стагодзьдзях». Што да адносінаў Царквы і культуры Сьвяцейшы Айцец заявіў: «Царква не атоесамліваецца з ніякаю культураю, гэта ёй забараняе яе сутнасьць. Аднак яна можа мець зносіны з усімі культурамі. І праз гэта яна можа спрычыніцца найбольш дзейна да ўстанаўленьня міру на сьвеце».

### АДНОСІНЫ МІЖ ЦАРКВАЮ, ДЗЯРЖАВАЮ І КУЛЬТУРАЮ

Прыймаючы 8-га верасьня на асобнай аўдыенцыі ўдзельнікаў дзесятага міжнароднага Кангрэсу Гістарычных Ведаў, Сьвяцейшы Айцец Пій XII у прамове да іх зьвярнуў увагу на адносіны Царквы і дзяржавы з аднаго абоку і Царквы да культуры з другога боку. «Дзяржава і Царква ёсьць незалежнымі сіламі, але яны не павінны сябе ігнараваць, а тымболыш змагацца з сабою» — казаў Сусьветны Архірэй — і пераходзячы да адносінаў Царквы да навукі і мадэрнае тэхнікі сьцьвердзіў, што сучасная тэхніка не апраўдвае тых спадзяваньняў, паводля якіх яна мела стацца агульным дабром для людзтва.

### БЭАТЫФІКАЦЫЯ 18 МУЧАНІКАЎ

У часе вялікае францускае рэвалюцыі было шмат крывавых ахвяраў з усіх пластоў францускага грамадзянства. Між імі вялікі працант займала духавенства, адзіным «злочанам» якога было толькі тое, што ня выраклася свае каталіцкае веры. Некаторыя з ахвяраў вызначаліся вялікаю сьвятасьцю жыцьця і гэройскаю адвагаю ў абароне свае веры. Такімі між іншымі былі 14 сьвятароў і 4 манахіні з гораду Лявалъ, якім сьцята галавы гілятынаю ў 1794 годзе. Пасьля доўгіх гадоў бэатыфікацыйнага працэсу сёлета 19 чэрвеня ў базыліцы сьвятога Пятра ў Рыме іх ўрачыста абвешчана блажэннымі.

## ЖЫДОЎСКАЯ АРКЕСТРА Ў ПАПЫ

Аркестра Ізраільскае філярмоніі ў складзе дзевяцьдзесяціпяці чалавек, якая летам аб'язджала сталіцы эўрапэйскіх дзяржаваў, была прынятая Сьвяцейшым Айцом Піям XII і ахвяравала Яму высокамастацкі канцэрт у кансыстарыяльнай салі. Гэты канцэрт славутае жыдоўскае аркестры быў выявам удзячнасьці жыдоў да Яго Сьвятасьці за абарону прасьледаваных жыдоў падчас апошняе сусьветнае вайны.

## ЦУДОЎНАЕ АЗДАРАЎЛЕНЬНЕ

У невялікім італьянскім мястэчку Бэрнарэджо шасьцігадовы хлапчына Сільвіё Вэртэматі захварэў на вострыя крывавы нэфрыт і лекары, пасьля выпрабаваньня ўсіх дасту пных ім сродкаў, прызналі хлапца за нявылячальнага. У безнадзейным стане яго выпісана з больніцы ў Вімэркатэ і перавезена ў бацькаўскі дом. Да ўміраючага хлапчыны прыйшоў мяйсцовы сьвятар, памаліўся ля ўзгалоўя і палажыў на яго кусочак сутаны, памёршага летась кардынала Шустэра, Міланскага архібіскупа. Па некалькі мінутах Сільвіё ўсьміхнуўся да прысутных, узьняў рукі і бяз нічые помчы сеў на ложку. Колькі дзён пасьля ён ужо чуўся зусім нармальна. Лекарская камісія прызнала яго поўнасьцю здаровым. Цяпер вядзецца працэс аб царкоўным прызнаньні цудоўнага аздараўленьня.

## У ЮГАСЛАВІІ СУПРАЦЬКАТАЛІЦКІ НАСТУП НЯ СПЫНЯЕЦЦА

Вызваліўшы для людзкога вока з турмы кардынала Я. Эм. Стэпінача, камуністычная ўлада трымае яго і далей увесь час пад дамовым арыштам, спачатку ў роднай вёсцы Красічы, а калі гэтая вёска сталася вядомая на ўвесь сьвет і для харвацкіх каталікоў сталася мейсцам паломніцтваў, дык камуністы перавезьлі кардынала ў Аграм і там пасялілі ў манастыры так-жа пад дамовым арыштам.

Амаль адначасна з перанясеньнем кардынала камуністычны суд засудзіў шматлікіх студэнтаў і прафэсароў багаслоўскага факультэту ў Рыека. Праз некаторы час выдана загад аб закрыцьці багаслоўскага факультэту на пяць гадоў. Зьвязаная з ім духоўная сэмінарыя і гімназія мусяць спыніць навуку на тры гады. — Усё гэта падкопная работа, каб зьменшыць лік каталіцкага сьвятарства, і лягчэй магчы змагацца з рэлігіяй.

## ДЭХРЫСТЫЯНІЗАЦЫЯ ЛЕТУВЫ

Спаміж усіх сучасных рэспублікаў СССР Летува зьяўляецца найбольш каталіцкаю краінай. Яе насельніцтва ў 1939 г. мела 85,7 % каталікоў. Заўзятая супрацьрэлігійная барацьба, якая вядзецца на ўсім абшары СССР, спрычыніла атрамадныя ахвяры ў Летуве. Цяпер вядзецца там дэхрыстыянізацыю краю нават у назовах мяйсцовасьцяў. Нядаўна летувіскі горад Марыямполь, які меў свой назоў ад найсьвяцейшае Дзевы Марыі заменана на Міцкевічыюс Капсукас, выкарыстоўваючы дзеля гэтага 75-ыя ўгодкі летувіскага камуністычнага верхавода. На Беларусі гэткая акцыя праведзена значна раней.

## САВЕЦКАЯ ЦАРКОЎНАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ Ў АНГЛІІ

Пачынаючы ад 1945 г. савецкія так званыя рэлігійныя дэлегацыі ня ёсьць навінкаю ў вольным сьвеце, але ад некаторага часу яны сталіся вельмі частымі. З нагоды кожнае такое дэлегацыі вядзецца адпаведная прапаганда ў прэсе. Апошнім часам шмат пісалася аб савецкай царкоўнай дэлегацыі, якая між 5-21 ліпеня пад галоўствам Менскага і Беларускага мітрапаліта Пітірыма Сьвірыдава адведала Англію. Складалася яна з 8 чалавек і ў тым ліку былі так-жа пратэстанты і баптысты. Падчас розных «багаслужэньняў», сустрэчаў, прыняцьцяў і канфэрэнцыяў у розных гарадох Англіі паасобныя ўдзельнікі дэлегацыі шмат гаварылі аб свабодзе рэлігіі ў СССР. Гэта старая і ўсім ведамая песьня савецкае прапаганды, дык няма ёй чаго дзівіцца, але ў даным выпадку была сапраўды савецкая іронія, што аб свабодзе рэлігіі гаварыў прадстаўнік «Праваслаўнае Царквы» Беларусі, дзе апошнім часам праведзена вялікую чыстку ў радох нават савецкіх ерархаў і зьліквідована Берасьцейскую, Віленскую, Гарадзенскую і Пінскую епархіі. Ведама-ж аб гэтым міт. Пітірым не заікнуўся і словам. Ён хваліўся толькі, што там ад 85 да 90% насельніцтва захавала веру ў Бога, не зважаючы на бязбожную прапаганду. Калі-б вольны сьвет ведаў сапраўднае палажэньне рэлігіі ў СССР, ня было-б грунту для савецкае прапаганды.

## ЧАГО НЯ РОБІЦЦА ДЛЯ ПРАПАГАНДЫ?

Ад часу калі савецкая ўлада абвесьціла дэкрэт аб адзьдзяленьні Царквы ад дзяржавы і пазбавіла Царкву юрыдычнага стану, ніводзін ерарх нідзе ня выступаў на афіцыйных савецкіх дзяржаўных прыняцьцях. Але сёлета бяз ніякага адкліканьня ці зьмены ўспомненых дэкрэтаў сталася зьмена ў практычным адношаньні савецкае ўлады да «Праваслаўнае Царквы». На прыёме, які Булганін ладзіў 9 чэрвеня на чэсьць прэм'ер міністра Індыі Дж. Нэгру між іншымі гасьцямі прысутнічалі патрыярх Маскоўскі Аляксей і мітр. Мікалай Круціцкі. Таго-ж дня мітр. Мікалай прысутнічаў на прыняцьці ў Вялікабрытанскім пасольстве ў Маскве. І ад таго часу дэлегацыі савецкае «Праваслаўнае Царквы» даволі часта выступаюць на розных прыняцьцях, якія ладзяцца на чэсьць заграцічных госьцяў у Крэмлі. Найчасьцей дэлегацыі ачольвае мітр. Мікалай Круціцкі.

## МІТРАПАЛІТ СЬЛІПЫЙ У ВАРКУЦЕ

Украінскі грэка-каталіцкі Львоўскі мітрапаліт Я. Э. Іосіф Сьліпый, ў 1945 г. быў арыштованы і засуджаны тайным савецкім судам на восем гадоў турмы за тое, што не згадзіўся перайсьці ў праваслаўе. Пасьля адбыцьця тае кары мітрапаліта засудзілі зноў і гэтым разам на 9 гадоў прымусовых работ бышцам за тое, што быў выдаў з турмы пастырскі ліст да вернікаў, а ў сапраўднасьці за тое, што астаўся верны Каталіцкай Царкве. Цяпер бытцам мітрапаліта звольнена з лягэру прымусовае працы, але забаронена вярнуцца ў Украіну і ён працуе прыдзьверным у больніцы ў Варкуце.

## СЬВЕДЧАНЬНЕ ІТАЛЬЯНСКАГА ЕЗУІТА АБ САВЕЦКАЙ УЛАДЗЕ

Айцец Пягро Леоні па нацыянальнасьці італьянец, у 1945 г. прыехаў у Одэсу, каб працаваць у тамашняй каталіцкай царкве. Але працаваў ён там усяго 7 месяцаў. У 1946 г. яго арыштована і пасьля перасылкі па розных турмах, засуджана на25 гадоў прымусовае працы і выслана адбываць кару ў Варкуту. Дзякуючы энэргічным стараньням італьянскага ўраду сёлета а. Леоні быў звольнены і прыехаў ў Рым. На запытаньні журналістаў ён між іншым заявіў: «Савецкі рэжым гэта рэжым здабываньня і паняволеньня, які ў сваёй сутнасьці лічыць немагчымым мірнае суіснаваньне з вольнымі народамі. Палітычнаю базаю савецкае палітыкі ёсьць тэстамэнт Леніна, дзе кажацца, рэвалюцыя павінна ахапіць усю нашу плянэту... сучасныя повідныя зьмены ў савецкай палітыцы робяцца толькі на тое, каб скарыстаць на часе. Савецкая дыплямацыя стараецца закалыхаць страх вольнага сьвету перад сваім рэжымам... абдурыць наіўных і людзей добрае волі».




## НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ

### У Вольнай Міжнароднай Акадэміі

Вольная Міжнародная Акадэмія Навукі і Мастацтва ў Парыжу, якая аб'ядноўвае вучоных і дыплhousehматаў з 12 народаў з-за зялезнае заслоны, ў тым ліку і беларусаў, штогод з нагоды свае гэнэральнае асамблеі ладзіць цыкль дакладаў на актуальныя тэмы. Сёлета такі цыкль дакладаў адбыўся 14 і 15 траўня. Асаблава вялікае зацікаўленьне прыцягваў супольны даклад-інфармацыя аб рэлігійнай сытуацыі за зялезнаю заслонаю, у якім выступалі пачарзе прадстаўнікі пасобных народаў. Аб рэлігійным становішчы на Беларусі гаварыў а. Леў Гарошка.

### На Кангрэсе «Пакс Романа»

Міжнародная арганізацыя студэнтаў і інтэлектуалістаў католікаў «Пакс Романа» ўжо на толькі здабыла сабе павагу ў вольным сьвеце, што яе міжнародныя кангрэсы стаюцца падзеямі ўсеагульнага значэньня. Асабліва наглядна аб гэтым можна было пераканацца на сёлетнім 23-ім кангрэсе, які адбыўся між 17-25 жніўня ў Ноттінгам з удзелам больш 700 дэлегатаў ад 48 нацыянальнасьцяў. Галоўнаю тэмаю кангрэсу была праблема прыстасаваньня да жыцьця абсальвэнтаў унівэрсытэтаў. Асноўных дакладаў было чатыры, а уласьцівая праца кангрэсу вялася ў шасьці сэкцыях. Сёлетні кангрэс заслугоўвае на асаблівую ўвагу, бо на ім першы раз быў прызначаны цэлы дзень (19 жніўня) для праблемаў народаў з-за зялезнае заслоны. Зацікаўленьне гэтаю часткаю кангрэсу было нязычайна вялікае. Даклады ў тым дні чыталі прадстаўнікі некаторых паняволеных народаў. З беларускае дэлегацыі прачытаў даклад а. д-р Чэслаў Сіповіч на тэму: «Некаторыя аспэкты прасьледу Царквы за зялезнаю заслонаю». Гэта быў першы даклад беларускае дэлегацыі ад калі яна належыць да «Пакс Романа».

Наагул сёлетні ўдзел беларускае дэлегацыі ў Кангрэсе паказаў, што беларусы, не зважаючы на ніякія цяжкасьці, ня толькі змаглі датрымаць кроку ў радох іншых шмат старэйшых і багацейных арганізацыяў, але ў некаторых выпадках былі ініцыятарамі і галоўнымі выканаўцамі працаў самога кангрэсу.

### Канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня Гісторыі і Культуры СССР

Дзейнасьць Інстытуту Вывучэньня Гісторыі і Культуры СССР у Мюнхэне выклікае ўзрастаю-

чае зацікаўленьне ў навукоўцаў вольнага сьвету так сваімі выданьнямі, як і канфэрэнцыямі, на якіх удзельнічаюць і прадстаўнікі навукоўцаў ад народаў СССР і заходняэўрапэйскія ды амэрыканская вучоныя.

Пятая Канфэрэнцыя, што адбылася 25-27 красавіка з ўдзелам 117 навукоўцаў была прысьвячана савецкай палітыцы «крутога ўздыму» і яе няўдачы. Ад беларусаў акрамя супрацоўнікаў Інстытуту прысутнічалі д-р В. Жук-Грышкевіч, А. Яловіч і мг. В. Кіпель. Супрацоўнік Інстытуту В. Будзімір прачытаў цікавы рэфэрат аб бульбе і агародніцтве ў СССР.

Шостая Канфэрэнцыя адбылася 28-30 ліпеня. Галоўнаю яе тэмаю было «Заданьні і мэтады вывучэньня СССР». Было прачытана пяць асноўных дакладаў; адзін з іх «аб Заданьнях вывучэньня СССР у галіне ідэалёгіі і культуры» прачытаў А. Адамовіч. Пасьля дакладаў адбылася жывая дыскусія на якой выступала 32 прамоўцаў, у тым ліку 5 беларусаў.

### Пяты кангрэс «Царква ў бядзе»

Невялікі нямецкі горад Кэніґштайн ад некалькі гадоў стаўся шырокаведамы дзякуючы актыўнай дзейнасьці групы каталіцкіх сьвятароў на карысьць арганізацыі рэлігійнага жыцьця народаў з-за зялезнае заслоны і асабліва эміграцыі гэтых народаў. Для вырашэньня практычных і тэарэтычных пытаньняў адбываюцца штогод кангрэсы, якія маюць агульны назоў Кангрэсаў «Царквы ў бядзе». Сёлета між 12-15 верасьня адбыўся ўжо пяты кангрэс, на якім акраммя дакладаў на актуальныя тэмы датычна рэлігійных праблемаў у падсавецкіх краінах адбыліся нарады ў справе рэлігійнага становішча ўцекачоў у вольным сьвеце. Аб рэлігійным становішчы беларусаў гаварыў беларускі душпастыр ў Нямеччыне а. Уладзімер Салавей.

### Дзесяты Міжнародны Кангрэс Гісторыкаў

Дэлегацыі гісторыкаў ад сарака васьмі дзяржаў сабраліся сёлета ў Рыме між 4-11 верасьня на дзесяты міжнародны кангрэс гастарычных навук. На ім беларускіх гісторыкаў рэпрэзэнтаваў афіцыяльны савецкі дэлегат, але некаторым беларускім эміграцкім навукоўцам было магчыма ўдзельнічаць на Кангрэсе ў ролі абсэрватараў. Уласьціва ўдзел савецкіх делегатаў ад усіх падсавецкіх краінаў палягаў на тым, каб ўнесіць няпрыемны фэрмэнт у працу Кангрэсу і рабіць перашкоды; яны выклікалі некалькі прыкрых інцыдэнтаў падчас чытаньня дакладаў, вымаглі ад кіраўніцтва Кангрэсу, каб з залі выстаўкі гістарычнае літаратуры прынялі стэнд з выданьнямі Мюнхэнскага Інстытуту Вывучэньня Гісторыі і Культуры СССР. Але было немалое зьдзіўленьне ўва ўсіх удзельнікаў, калі прыймаючы стэнд Мюнхэнскага Інстытуту выявілася, што ў ім былі выкладзены некаторыя кніжкі і між імі Н. Недасека аб бальшавізьме на Беларусі.

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

### Перастараліся

Пасьля беларускае дэкады ў Маскве адбылося вельмі цікавае абмеркаваньне навейшае музычнае творчасьці сучасных кампазітараў БССР. На абмеркаваньні прысутнічалі так-жа і расейскія кампазітары, якія ўважна сачылі за выступленьнем розных мастацкіх групаў падчас беларускае дэкады. Яны сьцьвердзілі, што ў шматлікіх творах беларускіх кампазітараў няма нічога беларускага. Гэты закід адносіцца нават да шырокарэклямаванае опэры «Дзяўчына з Палесься» і да некаторых «беларускіх» песень. («Советская Белоруссия» 2. III. 55).

### Дзейнасьць Менскага савецкага Мітрапаліта

Аб сапраўды рэлігійнай дзейнасьці савецкага «праваслаўнага» мітрапаліта ў Менску Пітірыма Свірыдава зьяўляюцца весткі толькі рады ў гады, але затое часта можна пачуць аб ягонай бальшавіцка-прапагандавай дзейнасьці. То ён суправаджае замежных госьцяў па СССР, то сам едзе ў дэлегацыі, то выдае патрыятычныя заклікі; відаць за гэта сёлета ён атрымаў 2 лютага тытул мітрапаліта хоць на Беларусі больш епархіяў і няма, як толькі адна «Менская і Беларуская». Ён вельмі актыўна ўдзельнічае ў так званым Беларускім рэспубліканскім камітэце абароны міру. Сёлета на пленуме гэтага Камітэту 26 сакавіка выступіў з вялікаю прамовай ад імя Расейскае Праваслаўнае Царквы.

### Рэлігійнае жыцьцё

Ужо даўно мінуў той час, калі бальшавікі хваліліся асягненьнямі бязбожнае прапаганды. Цяпер усё часьцей і часьцей можна пачуць нараканьні савецкае прэсы на нястачы бязбожнае прапаганды і дакоры на ўзрост рэлігійнасьці. Характэрна, што нават між камуністамі сустракаюцца такія, што «азначаюць рэлігійныя сьвяты». Напрыклад «Советская Белоруссия» з 4. IX. 55 накінулася на сакратара сельгасарцелі ім. Кірава Віцебскае вобл. Шчаглова за тое, што ён разам з іншымі камуністамі сьвяткаваў тады, калі быў вызначаны дзень вазіць збожжа ў раённы цэнтр.

### З атэстатамі сталасьці на фабрыкі і ў калгасы

Сёлета ў БССР, падобна як і ў іншых савецкіх рэспубліках адбыўся вельмі паважны пераварот адносна да вышэйшага школьніцтва. Першы крок у гэтым кірунку быў зроблены ўжо ў 1940 г., калі было скасована аўтаматычнае да-

ваньне стыпэндыяў студэнтам вышэйшых навучальных установаў і прызнавана стыпэндыі тольківі спэцыяльна выбраным. Але далейшыя абмежаваньні відаць спыніла вайна. Сёлета-ж мусіла выйсьці якаясь тайная пастанова, паводля якое наагул рэзка зьменшваецца лік студэнтаў. У зьвязку з гэтым пачалося зьменшваньне кадраў прафэсароў некаторых факультэтаў Менскага Унівэрсытэту і ўся савецкая прэса перапоўненая артыкуламі і зацемкамі аб дзесяцікласьніках, якія «з радасьцю» працуюць на фабрыках і ў калгасах. Напрыклад «Советская Белоруссия» 3. IX. 55 паведамляе, што з 17 чалавек, якія ў мінулым годзе скончылі Альшанскую дзесяцігодку ў Давыд-Гарадоцкім раёне, толькі 5 паехала вучыцца далей, а рэшта асталіся працаваць у калгасе. Тая-ж газэта з 8. IX. паведамляе, што наагул цяпер настаў час, калі шмат дзесяцікласьнікаў будзе працаваць на вытворчасьці. «Звязда» з 3. IX. 55 паведамляе, што на фабрыцы Гомсельмашына працуе вялікая група выпускнікоў сярэдніх школаў. Тая-ж газэта з 11. IX паведамляе аб дзесяцікласьніках Касаўскае сярэдняе школы, якія пайшлі на вытворчасьць. Шмат падобных вестак падае «Чырвоная зьмена» і раённыя газэты. І так пасьля бесканечнае балбатні камуністаў аб тым, што для моладзі яны адчынілі лепшую дарогу, стае ясным як дзень, што за выняткам невялічкае групы верхаводаў, яны рыхтуюць для ўсіх адзін адзіны ідэал — ярмо чорнага рабочага вала.

### На Беларусі зьявіліся пералогі

Ад мінулага году шмат беларускае моладзі вывезена на цалінныя землі ў Казахстан. Але вось як паведмаляе «Советская Белоруссия» з 26. VI на абшары дзеяньня Чаускае МТС ужо доўгія гады ляжыць адлогам 1.200 гэктараў ворнае зямлі. А колькі ёсьць такіх адлогаў, аб якіх савецкая прэса не ўспамінае і якіх натварыла калгасная сыстэма?

### Хадзі бяз гузікаў

Характэрнаю азнакаю кожнага таталітарнага ладу ёсьць тое, што верхаводы, засьлепленыя нейкаю адною галінаю промыслу, забываюцца аб іншых. Так ёсьць і ў БССР. Міністэрства прамысловых тавараў шырокага спажываньня БССР было забавязана выпрадукаваць за год 15 мільёнаў гузікаў, але да 1. VIII яно выпрадукавала толькі 2 мільёны і то дрэннае якасьці. Кравецкія майстэрні і трыкатажныя фабрыкі змушаны, шукаць гізукаў у іншых рэспубліках. Але калі-б нават заказ быў поўнасьцю выкананы, дык і так ён далёка не здаволіў-бы патрэбы насельніцтва, бо-ж за год выпало-б усяго па паўтара гузіка на чалавека. Вось чаму звычайна ў савецкіх справаздачах аб выкананьні плянаў падаюцца толькі проціанты.

### Ня купляюць савецкіх кнігаў

Сёлета савецкая прэса вельмі часта наракае на дрэннае распаўсюджаньне савецкае прэсы між насельніцтва. Відаць, што ніякія пастановы аб паправе распаўсюджаньня савецкае прэсы не даюць пажаданых вынікаў. Як паведамляе «Літаратура і мастацтва» з 3. IX. у Капанскай, Баршчэўскай і Белабалоцінскай крамах Рэчыцкага раёну «не прадаецца ніводнае кніжкі», а «Советская Белоруссия» з 1. IX кажа, што каапэрацыя рэспублікі за апошнія пяць гадоў ня выбрала на 25 мільёнаў рублёў, прызначанае ёй літаратуры. Да гэтых вестак непатрэбныя ніякія камэнтары.

### Скасавана Баранавіцкі раён

У сьпіску раёнаў БССР, якія некалькі разоў пры розных нагодах публікаваліся на старонках «Звязды» і «Совтской Белоруссии» ў ліку 175 раёнаў не ўспамінаецца Баранавіцкага раёну. Калі і як быў скасаваны гэты раён і якім суседнім раёнам прыдзелены ягоны абшар, ніякіх вестак у савецкай прэсе не падавалася.

## АНГЛІЯ

### 9-ты Зьезд ЗБВБ

На сёлетнім агульным зьезьдзе ЗБВБ, які адбыўся ў Лёндане 30 красавіка, быў зроблены агляд працы за мінулы год і зьвернена ўвага на некаторыя мамэнты з далейшага мінулага. Крытыка, якая адбылася пасьля справаздачаў галоўнае ўправы, зьвярнула ўвагу на актуальныя пытаньні з мяйсцовага і агульнабеларускага эміграцыйнага жыцьця. Дыскусія была доўгая, але рачовая. Новую галоўную ўправу выбрана ў такім складзе: старшыня — П. Асіповіч, заступнік ст. — Фр. Бартуль, сакратар — Т. Мазура скарбнік — М. Булыга, сябра ўправы — П. Навара, рэфэрэнт для дапамогі — а. Ч. Сіповіч. Уканцы выслана прывітальныя тэлеграмы каралеве В. Брытаніі, прэм'еру А. Ідэну, старшыні Ангельска-Беларускага Таварыства і прэзыдэнту БНР.

### Агульны Зьезд БАКА «Рунь»

З нагоды Тыдня Студыяў Беларускага Акадэмічнага Каталіцкага Аб'еднаньня «Рунь», калі ў Лёндане былі прадстаўнікі з Англіі, Бэльгіі, Гішпаніі, Нямеччыны і Францыі, 15 жніўня адбыўся Агульны Зьезд гэтае арганізацыі. Выслухаўшы справаздачы галоўнае ўправы і прадстаўнікоў з паасобных краінаў, завязалася жывая дыскусія, якая потым была выкарыстана для ўлажэньня пляну працы. Уся ўправа «Руні» была перавыбрана на наступную кадэнцыю за выняткам толькі заступніка старшыні. Наступны Тыдзень Студыяў намечана зарганізаваць ў Нямеччыне і галоўнаю яго тэмаю будзе: «Маральныя і этычныя праблемы ў жыцьці чалавека».

## АЎСТРАЛІЯ

### Арганізацыйнае жыцьцё

● Дзеля пасыўнасьці сяброў **Беларускага Аб'еднаньня** ў Новай Паўднёвай Валіі міма стараньняў управы гэтае арганізацыі, шырэйшае працы разгарнуць не ўдалося. На гадавым Зьезьдзе, які адбыўся 23 красавіка ў Сыднэю абмяркоўваліся спосабы актывізацыі дзейнасьці і была праведзена зборка грошаў для пабудовы дому для арх. Сяргея. Таму аднак, што сабрана толькі 101 фунт, сабраныя грошы перадана на патрэбы царкоўнага камітэту, а памешканьне архіяпіскапу заахвяраўваў адзін малады беларус.

● Агульны Сход **Згуртаваньня Беларусаў у Вікторыі,** які адбыўся 17 ліпеня ў **Мэльбурне**, выявіў, што гэтая арганізацыя зрабіла **нямала** ў галіне дабрадзейнасьці для суродзічаў іншых краінаў. Новай управе даручана зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўзгадаваньне моладзі.

## ІШПАНІЯ

### Даклад аб Беларусі

З ініцыятывы Усходняга Інстытуту ў Мадрыдзе супрацоўнік гэтага Інстытуту Я. Сурвіла прачытаў 26 ліпеня ў Мадрыдзе для прыезжых з правінцыі сэмінарыстаў абшырны даклад аб Беларусі. Пасьля дакладу адбылася дыскусія і канцэрт беларускіх песьняў з грамафонных плытак.

## З.Ш.А.

### З жыцьця моладзі

Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў З.Ш.А. мела 23 ліпеня ў Нью Брунсвіку чацьвёрты Агульны Зьезд. Распачаўся ён Службаю Божаю і прайшоў з маладняцкаю актыўнасьцю. У сваёй праграме акрамя справаздачаў, дыскусіяў ў выбараў меў так-жа супольныя сяброўскія выступы, якія час зьезду ператварылі ў прыемнае і доўгапамятнае сяброўскае спатканьне.

## ІТАЛІЯ

### Новы сьвятар

Сёлетні Вялікдзень для невялікае беларускае групы ў Рыме быў асабліва сьвяточны. У украінскай калегіі сьв. Ёзафата атрымаў з рук Я. Э. Івана Бучка сьвятарскія сьвячэньні, а. Кастусь Маскалік. А на другі дзень Вялікадня новавысьвячаны айцец адправіў сваю першую ўрачыстую Службу Божую ў царкве айцоў Базыльянаў, дзе знаходзіцца копія цудатворнае іконы Жыровіцкае Маці Божае.

Цяжкі быў жыцьцёвы шлях а. Кастуся: сіроцтва ад самага маленства, шуканьне вогнішчаў духовага жыцьця ў Жыровічах, потым у Уніве, наступна мабілізацыя ў чырвоную армію, дэпартацыя ў глыб Расеі, зноў вайсковая служба ўжо ў радох польскае арміі, каб вырвацца з савецкага «раю» і нарэшцэ дэмабілізацыя ў Італіі. Тут Кастусь дапоўніў сярэднюю асьвету і скончыў філязофскі і багаслоўскі факультэты на Грэгарыянскім унівэрсытэце. Айцец Кастусь атрымаў назначэньне на працу ў Беларускую Каталіцкую Місію ў Англіі. Жадаем яму добрых посьпехаў!

## КАНАДА

З нагоды сьвяткаваньня **100-ых угодкаў заснаваньня гораду Лёндану** (Правінцыя Онтарыё) адбыўся паход нацыянальнасьцяў, у якім удзельнічалі прадстаўнікі ўсіх народаў, пражываючых у горадзе; быў так-жа і прадстаўнік ад беларусаў у нацыянальнай вопратцы. А 6-га ліпеня тэлевізійная станцыя таго-ж гораду наладзіла паказ нацыянальных вопраткаў сваіх жыхароў, і тут выступала беларуская прадстаўніца.

## НЯМЕЧЧЫНА

### Выданьні Інстытуту

Інстытут Вывучэньня Гісторыі і Культуры СССР ў Мюнхэне пачаў выдаваць паважны пэрыёдык пабеларуску «Беларускі Зборнік» і плянуе выданьне гэткага-ж зборніка паангельску. Акрамя таго ўжо зьявілася некалькі кнігаў парасейку і пабеларуску на беларускія тэмы.

### Сяброўская сустрэча

З нагоды шостае Канфэрэнцыі Інстытуту, якая адбылася ў Мюнхэне між 28-30 ліпеня, мюнхэнскі беларускі гурток на некалькі дзён значна ўзрос і ў ім знайшлося аж трох сьвятароў (айцы Л. Гарошка, Ч. Сіповіч і Ул. Салавей). Такое рэдкае здарэньне азначана ўрачыстаю Службаю Божаю ў царкве сьв. Паўла і супольным абедам з прынагоднымі прамовамі.

## ФРАНЦЫЯ

### Агульны Сход АБРФ

Сёлетні Агульны Сход Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі, які адбыўся 5 чэрвеня ў салі Хрысьціянскага Сындыкату зьяўляецца новым этапам у жыцьці арганізацыі, якая ўжо дзесяты год выконвае ахвярна і сумленна адказную працу між сваіх суродзічаў у Францыі. Адкрыў Сход гэнэральны сакратар М. Наумовіч прывітальным словам. Далей згодна з парадкам дня выбрана прэзыдыю сходу, выслухана справаздачы ўправы і рэвізійнае камісіі ды дапоўнена іх у кароткай дыскусіі. Даўшы абсалютэрыю дасюлешняй ўправе, перавыбрана яе на наступны год і намечана вытычныя для пляну працы.

Уканцы прынята рэзалюцыю адказу на заклік савецкага Камітэту для вяртаньня на радзіму.

Прысутны на Сходзе прэз. М. Абрамчык паінфармаваў аб апошніх выніках перагавораў Парыскага Блёку з Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня народаў СССР. На Сходзе прысутнічаў так-жа госьць з Англіі а. Ч. Сіповіч, ён расказаў аб некаторых зьявах жыцьця нашых суродзічаў ў Англіі.

**ЗЬМЕНА АДРАСУ**

**Падаецца да агульнага ведама, што нядзельныя багаслужэньні для беларусаў перанесы з царквы Сан Сюльпіс у капліцу экстэрнату сьв. Людовіка і адбываюцца штонядзелі а гадз. 11. Адрас капліцы:**

**Externat St. Louis, I etage. 92. Boulevard du Montparnasse. Paris-XIV. Métro: Montparnasse.**

# НА КНІЖКАЙ ПАЛІЦЫ

*Sviataja Evanelija i Apostalskija Dziei.* **Pierakłau i padau vyjasnienni Ks. Dr, Piotr Tatarynovic. Rym 1954 f. 8°, star. 636,**

Патрэба выданьня беларускага перакладу Сьвятога Пісаньня, або прынамся Новага Запавету з паясьненьнямі адчуваецца ўжо ад даўна і ўсякі добры пачын у гэтым кірунку годны пахвалы. Тымбольш мусіў-бы быць высока ацэнены такі пераклад, які мае на мэце «прыслужыцца эміграцыі, што знайходзіцца на духовым раздарожжы» і адносна мовы перакладу мае на ўвеце зьвяртаць асаблівую ўвагу на «яснасьць і мілагучнасьць стылю... і эстэтычную адпаведнасьць слоўніка», як гэта абяцае на ўступе да свайго перакладу кс. Татарыновіч. Нажаль і то на вялікі жаль перакладчык ня толькі што не датрымоўвае свайго абяцаньня, але проста выстаўляе яго на кпіны ў сваім перакладзе.

Ужо сам назоў кнігі выклікае паважныя засьцярогі. Слова «Эванэлія» ўвodзілася ў беларускай каталіцкай літаратуры, выдаванай у Вільні між 1936-39 гадамі, але не атрымала агульнага прыняцьця дзеля таго, што мае форму пародыі (перакручаньня з мэтаю насьмешкі) з слова Эвангельле, якое ўжывалася і ўжываецца беларусамі паўсюдна так каталікамі, як і праваслаўнымі. Да таго гэтае слова перакладчык ужыў у адзіночным ліку, хоць падаў пераклад чатырох Эвангельляў. Праўда Хрыстос быў адзін і Ягоная добрая вестка — Эвангельле было адно, але ў даным выпадку маецца дачыненьне з чатырмя кнігамі дык лепш зазначыць гэта і адпаведнаю граматычнаю формаю. Адступленьні адносна гэтае формы часам робяцца, але тады зьвяртаецца большая ўвага на паясьненьні. Мова перакладу так густа перасыпана нсватворамі, правінцыяналізмамі і архаізмамі, што часам абцяжвае разуменьне тэксту. Некаторыя новатворы такія няўдалыя, што відаць сам перакладчык адчувае іх нясмак і стараецца іх унікаць. Напрыклад у Марка XII. 30. зусім выпушчана слова «Госпад» якое на іншых мейсцах перадавалася новатворам «Усеспадар». У Лукі I,38 выраз «слуга Госпада» перадана як «слуга Божа». У Матэя VII,21 — «Госпадзе, Госпадзе», пераведзена «Госпадзе, Усеспадару», і т. д.

У пагоні за арыгінальнасьцю перакладчык дапускаецца паважных недакладнасьцяў: замест «аздаравіў» — «ачуняў» (Мат. VIII,13); замест «на пачатку» — «спаконвеку» (Ян I,2) хоць гэтае апошняе слова дапускае розныя тлумачэньні тэксту. Ёсьць так-жа выпадкі зусім няправільнага перакладу, напрыклад, азначэньне большае пабожнасьці словам «буйнейшая» (Мат. V,20). Нагул пералічыць усе слоўныя недакладнасьці гэтага перакладу немагчыма ў рамах артыкулу.

Паясьненьні, якія прызначаны для таго, каб тэкст Сьвятога Пісаньня зрабіць больш зразумелым, у некаторых выпадках перакладчык выкарыстоўвае для апраўданьня сваіх новатвораў — гэткая практыка беззаганная ў сабе, на стар. 93 выкарыстоўваецца ў такі баламутны спосаб, спасылаючыся на кнігу Малышэвскага, што аж мяжуецца з хлусьнёю.

Шматлікія граматычныя формы, ўведзеныя ў перакладзе, зусім ня прынятыя ў беларускай літаратурнай мове. Напрыклад дзеяслоўная форма будучага часу незакончанага трываньня заменена царкоўна-славянскаю формаю: гаварыцімеце, меціме (говорити имате, имѣти имате). Шмат дзе гэтая форма ўжыта так-жа для азначэньня будучага часу закончанага трываньня (хрысьціціме, замест ахрысьціць. Мат. III,11). Такую форму можна пачуць у некаторых паўдзённых беларускіх гаворках, але ў літаратурнай мове, калі не рахаваць пару адхіленьняў дзеля рыму ў аднаго паэта, дык нават і спробаў ня было ўвядзеньня гэтае граматычнае формы ў беларускую граматыку. Затое яна часта сустракаецца ў творах украінскіх пісьменьнікаў у Галіцыі. Таксама і сінтаксіс шмат мае зусім небеларускіх формаў: побач правінцыяналізмаў сустракаецца шмат польскіх формаў (прыметнікі ставіцца часта перад назоўнікамі, мноства дзеяпрыметнікавых сказаў).

Кідаецца так-жа ў вочы няўвага да правапісу. Нават тыя самыя словы адзін раз пішуцца так, другі раз іначай: такжа — так-жа; анел — анёл і пад.

Шмат ёсьць дробных памылак, якія зусім выбачальныя, бо-ж ведама як цяжка правіць набор, які робіць чужынец, што ня ведае беларускае

мовы, але павага і значэньне Сьвятога Пісаньня вымагае адпаведна ўважлівых адносін да карэктуры асабліва тады, калі праз памылку зьмяняецца зусім сэнс слова, напрыклад: сто — што, ласка — ляска і пад.

Моўныя недарэчнасьці і дзівацтвы, якіх поўна ў перакладзе кс. Татарыновіча, кампрамітуюць беларускую мову і перад філялёгамі і перад вернікамі, бо гэткія моўныя экспэрымэнты ня прычыняюцца да падняцьця рэлігійнасьці, але наадварот — спрычыняюць замяшаньне, да таго ўсяго яны ня годзяцца з павагаю Сьвятога Пісаньня.

**а. Л. Гарошка**

**Уладзімер Жылка, Творы.** Да 20-ых угодкаў сьмерці. Пад рэдакцыяй і з камэнтарамі Ант. Адамовіча. Нью Ёрк 1953, 8°, стар. 104.

Аб літаратурных вартасьцях патрыятычных вершаў Жылкі ўжо літаратурныя крытыкі далі адпаведную ацэнку. Значна дапоўніў яе выдавец на ўступе і ў заўвагах. Але ёсьць адзін мамэнт у творчасьці Жылкі, аб якім да гэтага часу сказана вельмі мала і які з пашаны да паэта крытыка стараецца быццам адмоўчвацца. Паколькі аднак «Творы» выйшлі ў сьвет з усімі вершамі, якія выдавец змог сабраць і ў гэтым зборніку знайшліся разам з прыгожымі вартаснымі вершамі так-жа і такія, які мусяць выклікаць асуджаньне з маральнага і рэлігійнага гледзішча, неабходна зьвярнуць на іх адпаведную ўвагу.

У праскім пэрыядзе, Жылка пачынае апяваць маральны ўпадак: «І моц жаданьня асіліць ня нам» (с. 67), зьвяртае ўвагу на ўпаўшых жанчын (с. 75) і пачынае экзальтаваць, нават абажаць гэтыя ўпаўшыя істоты: «прыймі малітвы, маладая» (с. 61). Гэта нямінуча давяло паэта да канфлікту з хрысьціянскаю маральнасьцю і з Самым Хрыстом, Якога ён намагаецца зьнізіць да ўпадніцкага ўзроўню («Марта» с. 48) і зьвяртаецца да Хрыста праз трэцюю асобу Альбігойца з блюзьнерскім дакорам (с. 73). Гэтыя блюзьнерскія вершы бязумоўна зьяўляюцца вялікаю плямаю ў творчасьці Жылкі і хто ведае, матчыма за яе ён заплаціў жыцьцём, бо якраз у такім маральна заганным стане ён пераехаў у Савецкую Беларусь, дзе супрацьрэлігійная лінія была афіцыяльна абавязковаю для кожнага пісьменьніка. І вось там, у той кашмарнай дзейснасьці, якую вытварая бязбожная ўлада, наступае павольнае аздараўленьне паэты. У падсавецкіх творах Жылкі ня чуваць больш блюзьнерскага тону. Аднак гэтая зьмена на лепшае не давяла яго да рэлігійнасьці. У «Тэстамэнце» ён просіць толькі людзей, каб даравалі яму грахі (с. 101). У маладосьці так-жа ня відаць рэлігійнасьці ў Жылкі; ён слаў раньнія малітвы але толькі «Сьвятлу» (с. 32), верыў у цуд лепшае долі курных хат (с. 33), але не ўсьведамляў сабе, як гэта можа стацца. Адно ёсьць бясспэрэчным, што ён бязьмежна любіў сваю бацькаўшчыну і ўважаў за шчасьце, «калі трэба ўмерці нат'» (с. 33) за яе лепшую будучыню, аднак маючы паважную нястачу ў сваім сьветаглядзе, нястачу адносна рэлігіі, пайшоў тым шляхам, які ня даў магчымасьці нават разьвіць як сьлед паэтычнага таленту. Гэта ёсьць трагізм ня толькі аднаго Жылкі. На Беларусі былі такія фатальныя ўмовы, што нішчылі і калечылі таленты, якія ў іншых абставінах маглі-б прынесьці вялікую славу і беларускаму народу і ўсяму людзтву. Ужо пара з гэтага зрабіць адпаведныя выснаўкі.

**Пр. К.**

**Майсей Сяднёў, Ля ціхай брамы. Вершы.** Выд. Ул. Пелясы. Ньё Ёрк 1955, f. 8°, стар. 62.

Гэта ўжо чацьвёрты з чаргі зборнік вершаў Сяднёва, які зьявіўся на эміграцыі. У тэхніцы верша і лёгкасьці мовы аўтар зрабіў вялікі поступ. З сапраўдным мастацтвам ён умее выказваць свае душэўныя перажываньні, свой неспакой. Нажаль адносна зьместу вершаў і зьместу перажываньняў аўтара ўсюды сьледны вялікі крюк назад і часта ўніз. У вершах сустракаюцца частыя звароты да Бога, але яны чаргуюцца з упадніцтвам і зьняверам. Адзін раз ён сумняецца, ці ёсьць пазаграбовае жыцьцё (с. 46), іншы раз зьвяртаецца да нейкіх багоў (с. с. 30, 34 з малое літары) як да чагосьці зусім пустога. У большасьці вершаў дае выяў расчараваньню (с. 23), стомленасьці (с. 18, 55) і нават цэлы верш затытулаваў «Зьнявера» (с. 18). У гэткім стане ён хоча бачыць плямы нават на сонцы і падазрае ў няпрыстойнасьцях манахаў (59) і цэлыя кляштары (22) — відавочна аўтар гэтым нясьведама выяўляе жаданьне апраўдаць свае маральныя ўпадкі, але якая карысьць з такое нявольнае споведзі? Варта пажадаць аўтару, каб ён уважней пашукаў тае брамы, праз якую «усёткі мог у неба ўзьляцець» (с. 7).

**Л. Г.**

*Vladimir Seduro. The Byelorussian Theater and Drama.* **Edited by Edgar H. Lehrman, Research Program on the USSR. New York 1955, f. 8°, star, XII + 519.**

Кніга Уладзімера Сядуры папярэджана ўступам праф. Калюмбійскага унівэрсытэту д-ра Эрнаста Сімона. Гэта першая вялікая і павяжная праца аб беларускім тэатры ў ангельскай мове. Яна ня толькі запаўняе нястачу інфармацыяў аб беларускім тэатры ў заходняэўрапэйскіх мовах, але зьяўляецца наагул паважнаю навуковаю працаю ў гэтай галіне. Шматлікія фатаграфіі і вялікая бібліяграфія кажуць аб тым, што аўтар улажыў шмат працы, каб сабраць так багаты матэрыял у эміграцыйных умовах.

**Пр. К.**

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris

Directeur : Abbé L. Horosco.

# Абразкі з жыцьця

## ДЗЕЯНЬНЕ МАЛІТВЫ

Лекара Тодара Н. паклікалі да хворага на рака, у якога раны так сьмярдзелі, што паветра ў пакоі было горш чым удушлівае. Лекар, аглянуўшы на сьпех хворага, чым хутчэй выйшаў з пакою. Але калі ён апыніўся на вуліцы, адна жанчына паклікала яго ў свой агарод і дала прыгожы букет духмяных ружаў. Узяўшы букет, лекар хлівіну падумаў, і завярнуўся да хворага, каб дапоўніць свой агляд. Хворы, убачыўшы зноў лекара каля свайго ложка і букет ружаў каля сваё галавы, злажыў рукі і голасна дзякаваў... Багародзіцы: «Найсьвяцейшая Маці, якая Ты добрая, Ты пачула маю просьбу і прычынілася за мною ў Твайго Сына ды паслала мне кветкі, каб зьменшыць смурод маіх ранаў. Дзякую і вам доктар, што Яе паслухалі».

## УБАЧЫЎ СЬЛЯДЫ БОГА

Аднойчы якісьці сьвятар пытаўся ў французкага вучонага прыродаведа Гэнрыка Фабра (1823-1915), ці ён верыць у Бога. Вучоны з усьмешкаю на вуснах адказаў:

— Не, ойча, я ня веру.

— Як — зьдзівіўся сьвятар — вашыя досьледы Яго так ясна паказваюць і вы ня верыце ў існаваньне Бога?

— Так, я ня веру, бо я Яго бачу.

## НАРАКАНЬНЕ НЕДАВЕРКАЎ

У якім палажэньні знайходзіцца чалавек, калі ён траціць рэлігійную веру і якую жудасную паражнечу мусіць адчуваць у сваёй душы, сьведчаць шматлікія прызнаньні самых-жа недаверкаў у прыступах шчырасьці. Асабліва ясна выказаў стан недаверка ведамы нямецкі філёзаф Ніцшэ ў кнізе: «Так сказаў Заратустра». Там між іншым «Цень», які выказвае пагляд самога філёзафа, кажа «Ці маю я яшчэ якую мэту? Якуюсь прыстань, да якое імкнуцца мае ветразі? якісьці добры вецер? Ах, толькі той, хто ведае, адкуль едзе, ведае так-жа які вецер для яго ёсьць добры і прыдатны. Што-ж мне яшчэ астаецца? Зьнямоžанае і нахабнае сэрца; нясталая ветрагонная воля; зломаны хрыбет... Дзе маё прыстанішча? Яго я пытаю, і шукаю, і шукаў, але не знаходжу. О вечная паўсюднасьць, вечнае нідзе, вечнае дармо!»

## ДУХ АХВЯРЫ

Для праведнага і цнатлівага жыцьця вялікую падтрымку дае сьвятое Прычасьце. Яно можа тварыць сапраўдныя цуды любові бліжняга. Прыгожым прыкладам такога падтрымліваючага дзеяньня сьвятога Прычасьця можа быць жыцьцё айца Дзямяна дэ Войстэр (1849-1889). Ужо ад некалькі гадоў вядзецца ягоны бэатыфікацыйны працэс. Ён усё сваё жыцьцё пасьвяціў на службу пракажонным у адной з лепразорыяў на Малякайскіх астравох. Там доўгія гады сваею ахвярнаю працаю служыў найбяднейшым з бедных, бо нявылячальна хворым, пакуль сам не падзяліў іхняга лёсу. Калі ягоная ахвярная праца сталася ведамаю ў сьвеце, дык адусюль прыйходзілі для абяздоленых хворых і для яго дарункі і лісты з выяўленьнем пашаны нават ад пратэстантаў. Адзін англіканскі пастар у Лёндане некалькі разоў рабіў зборку ў сваёй парахвіі на карысьць пракажонных і перасылаў усё сабранае а. Дзямяну, супраўаджаючы іх адпаведнымі лістамі. У адказе на адзін з такіх лістоў а. Дзямян выкаваў тайну сваё гэройскае ахвярнасьці. Дня 26. VIII. 1886 г. ён між іншым пісаў: «Дзякую Боскаму Збавіцелю, што Ён вам даў зразуменьне салодкасьці самаахвярнага жыцьця праз прыклад аднаго беднага сьвятара, які выконвае толькі абавязкі свайго стану. Як вы вельмі слушна заўважваеце ў сваім лісьце, толькі вера ў Найсьвяцейшую Эўхарыстую і ўдзячную ўзаемную любоў можа спанукаць адмовіцца ад земскіх імкненьняў і ад людзкога жаданьня славы. Без заўсёднае прысутнасьці боскага Настаўніка ў нашай беднай капліцы я-б ніколі ня вытрымаў у маёй пастанове, жыць жыцьцём пракажонных і падзяляць іхнюю долю. Але з сьвятым Прычасьцем, якое ёсьць штодзённым хлебам сьвятара, я чуюся задаволеным і шчасьлівым у тым вынятковым становішчы, куды мяне прывёў боскі правід».

## ВЫЗНАЧНЫ МАСТАК АБ ХРЫСЬЦЕ

Калі пісаніна Дрэуса супраць Хрыста была выклікала хрысталягічныя спрэчкі між вучоных, дык з гэтае нагоды выдатны нямецкі мастак Ганс Тома (1839-1924) вельмі трапна пісаў: «Хрыстос ёсьць заўсёды прысутны і простая дзіцячая вера часта можа Яго ўспрыняць глыбей чым тыя, што думаюць ухапіць хрысціянства вострымі філязафічнымі апцэнгамі. Ягоная сьмерць на Крыжы, якою Ён нас папярэдзіў ува ўсіх цярпеньнях аж да сьмерці, ёсьць знакам Яго рэальнасьці. Ён уваскрос і жыве ды будзе жыць нават і тады, калі неба і зямля мінуцца».

## ХТО ЧЫМ ХВАЛІЦЦА?

Аднойчы ў таварыскай гутарцы спыталі аднаго паважнага вучонага:

— Чаму спаміж недавучаных людзей ёсьць шмат бязбожнікаў і чаму яны хваляцца сваім бязбожжам?

— А чым-жа недавучка будзе хваліцца, калі ён нічога добра ня ведае? Талькі сваею няведаю ён і можа пахваліцца.

## ЗЬМЕСТ